ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЇН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# ЗА ЛЕНІНСКУЮ ВУЧОБУ

ОРГАН КУЛЬТПРОПУ ЦК КП/б/Б



СТУДЗЕНЬ

№ 1–2

ДВБ 1933
ПАРТМАССЭКТАР








Пролетары ўсіх краін, злучайцеся



# ЗА ЛЕНІНСКУЮ ВУЧОБУ

ОРГАН КУЛЬТПРОПУ ЦК КП(б)Б

## № 1—2

СТУДЗЕНЬ 1933

ВЫХОДЗІЦЬ 2 РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ПАРТМАССЭКТАР
МЕНСК 1933






Літправука *А. Зіміонка*
Корэктар *Ул. Ляўданскі*
Тэхрэдактар *І. Мілешка*
Здана ў набор 9-III—33 г.
Падпісана да друку 12-VI—33 г.
Набрана брыгадай *Каждан*
Адк. кор. друк. *А. Мацкевіч*

Заказ № 817. 5.000 экз. (3 арк.) Уп. Галоўлітбелу №а 201.

Друкарня імя Сталіна.

*Гікало*

# ВЫНІКІ СТУДЗЕНЬСКАГА АБ'ЯДНАНАГА ПЛЕНУМУ ЦК І ЦКК УсеКП(б) І ЗАДАЧЫ ПАРТЫЙНАЙ ОРГАНІЗАЦЫІ БССР [1])

Таварышы! Студзеньскі пленум ЦК і ЦКК УсеКП(б) па сваім значэньні займае адно з выключных месц у рабоце нашай партыі, ён мае гістарычнае значэньне. Сабраўшыся на рубяжы дзьвюх пяцігодак і напярэдадні 9-й гадавіны сьмерці Леніна, гэты пленум зьявіўся па сутнасьці генэральнай праверкай таго, як наша партыя змагалася і ажыцьцяўляла пяцігадовы плян соцыялістычнага будаўніцтва, як яна выконвала заветы Леніна.

Выкананьне пяцігодкі за 4 гады зьяўляецца няўхільным ажыцьцяўленьнем заветаў Леніна аб індустрыялізацыі нашай краіны і соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Цьвёрдая ленінская лінія на паскораныя тэмпы індустрыялізацыі краіны, якая няўхільна праводзілася Цэнтральным комітэтам на чале з нашым правадыром і настаўнікам т. Сталіным, забясьпечыла нам гістарычныя перамогі. Узброеная чоткай ленінскай праграмай і яснай пэрспэктывай, данай Леніным яшчэ напярэдадні Кастрычніцкай рэволюцыі, партыя, пад кіраўніцтвам ленінскага ЦК на чале з т. Сталіным, дабілася таго, што наша краіна ператварылася з аграрнай у індустрыяльную, заняўшы адно з першых месц у сусьветнай гаспадарцы. Гэтым самым партыя даказала ўсяму сьвету, што рабочая кляса здольна ня толькі ўтрымаць уладу ў сваіх руках, ня толькі разбурыць старое, але яна можа пабудаваць сваімі ўласнымі сіламі соцыялістычную гаспадарку, узброеную навейшай тэхнікай.

Напярэдадні пяцігодкі т. Сталін на пленуме ЦК у лістападзе 1928 г. гаварыў:

„Паглядзіце на капіталістычныя краіны і вы ўбачыце, што там тэхніка ня толькі ідзе, але ўпрост бяжыць уперад, пераганяючы старыя формы прамысловасьці і тэхнікі. І вось выходзіць, што, з аднаго боку, мы маем ў нашай краіне найбольш перадавую ўладу ва ўсім сьвеце—савецкую ўладу, а, з другога боку—мы маем надзвычай адсталую тэхніку прамысловасьці.

Ці думаеце вы,—зьвяртаўся т. Сталін да членаў пленуму,—

---

[1]) З дакладу Сакратара ЦК КП(б) тав. Гікало на аб'ядданым пленуме Менгаркому і ГарКК КП(б)Б сумесна с partактывам.

што можна дабіцца канчатковай перамогі соцыялізму пры наяўнасьці гэтых супярэчнасьцяй? Што трэба зрабіць, каб ліквідаваць гэтыя супярэчнасьці? Для гэтага неабходна дабіцца таго, каб дагнаць і перагнаць перадавую тэхніку разьвітых капіталістычных краін...

Мы дагналі і перагналі перадавыя капіталістычныя краіны ў сэнсе ўстанаўленьня новага палітычнага ладу—савецкага ладу. Гэта добра, але гэтага мала. Для таго, каб дабіцца канчатковай перамогі соцыялізму, неабходна яшчэ дагнаць і перагнаць гэтыя краіны таксама і ў тэхніка-эканамічных адносінах. Або мы гэтага даб'ёмся, або нас сатруць".

На гэтым пленуме т. Сталін падкрэсьліў, што адсталасьць нашай краіны ня намі прыдумана, а перадана ў спадчыну ўсёй гісторыяй нашай краіны. І „раз мы прышлі да ўлады, узялі на сябе задачуператварыць краіну на аснове соцыялізму, то мы адказваем за ўсё, мы павінны ліквідаваць наша тэхніка-эканамічнае адставаньне. Мы павінны гэта зрабіць абавязкова, калі на самай справе хочам дагнаць і перагнаць перадавыя капіталістычныя краіны. І зрабіць гэта можна. На гэта мы бальшавікі. Іменна для правядзеньня ў жыцьцё гэтай задачы мы павінны сыстэматычна ажыцьцяўляць хуткім тэмпам разьвіцьцё нашай індустрыі. Гэта бачаць цяпер усе".

Прыведзеныя палажэньні з прамовы т. Сталіна з усёй відавочнасьцю паказваюць, наколькі ўжо тады напярэдадні пяцігодкі т. Сталін выходзіў з конкрэтнай тагочаснай абстаноўкі, з усёй чоткасьцю бачыў тыя ,задачы, якія павінны быць вырашаны пяцігодкай. Пад непасрэдным кіраўніцтвам т. Сталіна былі намечаны і распрацаваны асноўныя напрамкі першай пяцігодкі. Гэты плян быў намечан т. Сталіным з ленінскай празорлівасьцю. Уся барацьба за выкананьне гэтага пляну працякала пад яго непасрэдным кіраўніцтвам. Вось што забясьпечыла нам такія выключныя перамогі ў выкананьні пяцігодкі.

Таварышы! Самае выдатнае ва ўсёй барацьбе і рабоце, якую правяла партыя за першую пяцігодку, зьяўляецца тое, што наш ленінскі Цэнтральны комітэт, на чале з правадыром т. Сталіным, яшчэ ў 1928 г., калі опортуністы ўсіх масьцей угорылі міжнароднай буржуазіі аб немагчымасьці высокіх тэмпаў індустрыялізацыі, аб немагчымасьці пабудовы соцыялізму ў аднэй краіне—разгарнуў баявую праграму першай пяцігодкі і пачаў практычна, з уласьцівай яму ленінскай праматой, непрымірымасьцю, мэтаімкнёнасьцю і жалезнай настойлівасьцю ажыцьцяўляць гэты пяцігадовы плян.

Трэба з усёй сілай падкрэсьліць, што заслуга т. Сталіна заключаецца і ў тым, што ён здолеў з тэй спадчыны, якую пакінуў нам Ленін, — стварыць баявую праграму дзеяньняў і конкрэтны плян работы, атрымаўшы такое яскравае адлюстраваньне ў першай пяцігодцы.

Уся мудрасьць правадыра нашай партыі т. Сталіна заключалася ў тым, што ён ня толькі здолеў па-бальшавіцку, па-ленінску паставіць перад партыяй задачу ажыцьцяўленьня пяцігодкі,

ён забясьпечыў сваім кіраўніцтвам і яе конкрэтнае выкананьне на ўсіх рашаючых вучастках, згуртаваўшы вакол барацьбы за правядзеньне гэтай программы партыю і мільёны рабочых і сялян СССР.

Пад кіраўніцтвам т. Сталіна наша партыя распрацавала пяцігодку. Пад яго кіраўніцтвам яна гэту пяцігодку адстойвала ад усіх нападкаў ворагаў унутры партыі, пад яго кіраўніцтвам наша партыя прышла да перамогі, да завяршэньня гэтага пяцігадовага пляну.

Тав. Сталін указаў на тое асноўнае зьвяно, за якое трэба было ўхапіцца, каб выцягнуць увесь ланцуг. Гэтым зьвяном зьявілася цяжкая прамысловасьць і, у асаблівасьці, машынабудаўніцтва, як сэрцавіна цяжкай прамысловасьці. Ухапіўшыся за гэта зьвяно, мы забясьпечылі ператварэньне нашай краіны з краіны па сутнасьці аграрнай у краіну індустрыяльную, дабіліся такога становішча, калі капіталістычныя элемэнты выціснуты ўжо з прамысловасьці канчаткова і беспаваротна, калі соцыялістычная прамысловасьць стала адзінай формай індустрыі ў Саюзе, стала асноўным вагаром у справе рэконструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі і пабудовы соцыялістычнага грамадзтва.

Пераходзім, таварышы, да вынікаў першай пяцігодкі.

Я ня буду затрудняць вашу ўвагу шматлікімі лічбамі аб выніках нашага росту за гэту пяцігодку, якая выканана за 4 гады. Гэтыя даныя дастаткова прыведзены і ў дакладзе т. Сталіна на пленуме ЦК і апублікаваны ў дакладах тт. Молатава, Куйбышава як на пленуме ЦК, так і на апошняй сэсіі ЦВК СССР.

За гады пяцігодкі мы стварылі чорную мэталюргію—аснову індустрыялізацыі краіны, мы стварылі новую трактарную прамысловасьць, аўтомобільную, хімічную, авіяцыйную, сельскагаспадарчае машынабудаўніцтва, стварылі новую вугальна-мэталюргічную базу на ўсходзе. Валавая продукцыя прамысловасьці выросла да 334 проц. супроць 1913 г. Тысячы новых прадпрыемстваў пакрылі СССР.

У выніку гэтых посьпехаў індустрыялізацыі, посьпехаў і перамог генэральнай лініі партыі мы ператварыліся ў краіну передавую, індустрыяльную і магутную, поўнасьцю самастойную і незалежную ад капрызаў сусьветнага капіталізму. І гэта ў той час, калі капіталістычны сьвет ахоплен жорсткім сусьветным крызісам.

Таварышы Сталін, Молатаў, Куйбышаў, Орджонікідзэ ў сваіх выступленьнях на пленуме заявілі, што няма такой машыны ў сьвеце, якую-б мы ня здолелі пабудаваць у СССР, няма такога прадпрыемства, якога-б мы ня здолелі спроектаваць.

Вы ведаеце, што пяцігадовы плян выканан па прамысловай продукцыі на 93,7 проц. Але з дакладу т. Сталіна вы ведаеце аб тых асноўных прычынах, у сілу якіх атрымалася гэтае недавыкананьне. Асноўнай прычынай была тая акалічнасьць, што мы былі вымушаны ў пачатку 1932 г. пераключыць рад нашых прадпрыемстваў на абарону краіны.

„Ня можа быць ніякіх сумненьняў,—гаварыў т. Сталін на

пленуме ЦК,—што бяз гэтай „прыўваходзячай“ акалічнасьці мы ня толькі выканалі-б, але напэўна перавыканалі-б лічбовую частку пяцігадовага пляну".

Прыкладна 6 проц. недавыкананьня пайшло на ўмацаваньне абароны краіны і гэта прывяло да таго, што з краіны слабай і непадрыхтаванай да абароны, мы ператварыліся ў магутную ў сэнсе абароназдольнасьці краіну.

Тав. Варашылаў на пленуме ЦК прыводзіў прыклады нашай поўнай гатоўнасьці да абароны, гаварыў, што неабходныя сродкі для абароны, танкі, авіацыю, складанейшую зброю, хімію мы зараз здольны самі вырабляць у масавым маштабе. Усё гэта стала магчымым дзякуючы посьпехам політыкі індустрыялізацыі.

Тое, што мы стварылі ў выніку пяцігодкі, не пад сілу ні аднэй капіталістычнай краіне. Тэмпы, падобныя да нашых, ня сьніліся, і нямысьлімы і немагчымы ні для аднэй капіталістычнай краіны. У радзе галін прамысловасьці наша краіна ня толькі дагнала, але і перагнала перадавыя капіталістычныя краіны. Мы высунуліся па вытворчасьці трактараў на першае месца ў сьвеце, па сельска-гаспадарчым машынабудаўніцтве—на першае месца; па вытворчасьці комбайнаў—на першае месца; па агульным машынабудаўніцтве—на першае месца ў Эўропе і другое ў сьвеце, па нафце—на першае ў Эўропе і другое ў сьвеце. Доля ўдзелу Савецкага саюзу ў сусьветнай прамысловай вытворчасьці за апошнія 5 год узрасла з 4,7 да 14,9 проц. Мы абагналі па валавой прамысловай продукцыі такія краіны як Англія, Германія, Францыя і занялі ўсьлед за ПАЗШ другое месца ў сьвеце.

Пабудаваць такую магутную перадавую індустрыю ня так лёгка. Для гэтага неабходна перш за ўсё мець вялізарнейшыя сродкі. Перадавыя капіталістычныя краіны—Англія, Францыя і Германія—разьвівалі сваю прамысловасьць, накапляючы сродкі шляхам грабяжу калёній, шляхам войн, эксплёатацыі і пазык. Савецкі саюз ня мог стаць на такі шлях. Наадварот, на ўсім працягу пяцігодкі капіталістычныя краіны стваралі нам дадатковыя цяжкасьці. Даволі ўспомніць конфлікт на КУЧ, провокацыйную кампанію аб „Савецкім дэмпінгу“, паклёпніцкія выдумкі аб ўжываньні „рабскай“ працы і т. д.

Уся сіла кіраўніцтва т. Сталіна і нашага ЦК была ў тым, што яны здолелі ўказаць крыніцы накапленьня для пабудовы буйнай прамысловасьці побач з сыстэматычным павышэньнем матэрыяльнага і культурнага дабрабыту рабочага.

Такой важнейшай крыніцай у справе накапленьня зьявілася пляновае вядзеньне гаспадаркі, зьнішчэньне эксплёататарскіх кляс, рэжым экономіі, памножаны на энтузіязм мас. Без энтузіязму рабочай клясы, без героізму, бяз масавага руху працоўных, без соцыялістычнага спаборніцтва, без організацыі ўдарных брыгад—пяцігодка была нямысьліма. Пяцігодку ўдалося выканаць таму, што партыя ўзьняла, організавала вакол гэтага шырокія шматмільённыя масы, павяла іх на барацьбу за пяцігодку.

У рэзультаце партыя дабілася выкананьня аднаго з самых ас-

ноўных указаньняў т. Леніна аб неабходнасьці *„перасесьці з абнішчалага, сялянскага каня, на каня, якога шукае і ня можа ня шукаць для сябе пролетарыят, на каня буйнай машыннай індустрыі, электрыфікацыі* і т. д.“

У рэзультаце выкананьня пяцігадовага пляну мы ня толькі ператварыліся ў індустрыяльную краіну, але мы сталі краінай самага буйнага земляробства ў сьвеце, організаванага на базе колектыўнай працы і высокай машыннай тэхнікі.

За гады пяцігодкі організавана звыш 200 тысяч колгасаў і 5 тыс. саўгасаў. За чатыры гады ёсьць прырост пасеўных плошчаў на 20 млн. *га*. Партыя дабілася таго, што асноўная маса сялянства—60 проц. ахоплена колгасамі, з ахопам колгасамі 70 проц. усіх плошчаў.

У галіне мэханізацыі сельскай гаспадаркі мы таксама далёка шагнулі ўперад. Організавана 2446 МТС. За гады пяцігодкі ў сельскую гаспадарку дано сельскагаспадарчых прылад на суму каля 3 млрд. руб. У рэзультаце значна ўзрасла таварная продукцыя сельскай гаспадаркі. У 1928 г. нам удалося сабраць 700 млн. пудоў таварнага хлеба. Зараз мы маем магчымасьць атрымліваць таварнага хлеба з сельскай гаспадаркі больш 1 млрд. пудоў. Гэта зьяўляецца простым рэзультатам вялізарнай работы, праробленнай намі ў справе соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, забясьпечыўшай на аснове разьвіцьця колектывізацыі вырашэньне збожжавай проблемы.

На аснове цьвёрдага і няўхільнага правядзеньня політыкі індустрыялізацыі, на аснове правядзеньня суцэльнай колектывізацыі, мы дабіліся рашаючых посьпехаў у справе ліквідацыі кулака, мы гіганцкі ўзмацнілі кіруючыя позыцыі рабочай клясы ў вёсцы і перамога соцыялізму ў вёсцы забясьпечана. Пытаньне „хто каго“ вырашана канчаткова і беспаваротна—ня толькі ў прамысловасьці, але і ў сельскай гаспадарцы.

На аснове індустрыялізацыі і соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі значна палепшылася матэрыяльнае становішча рабочых і сялян СССР. Важнейшым фактам паляпшэньня матэрыяльнага становішча рабочых зьяўляецца ліквідацыя беспрацоўя ў СССР, ліквідацыя няўпэўненасьці рабочага ў заўтрашнім дні. Мы зараз маем такое становішча, калі рабочы адчувае сябе моцна, ён мае магчымасьць выбіраць работу, у яго ёсьць пэрспэктывы, яго ня трывожыць заўтрашні дзень. Ва ўмовах самага жорсткага крызісу, перажываемага капіталістычнымі краінамі, мільёны беспрацоўных цягнуць нікчэмнае паўгалоднае і галоднае існаваньне, працуючыя пролетары знаходзяцца пад пастаяннай пагрозай скарачэньня, а гэта значыць—пад пагрозай галоднай сьмерці. Беспэрспэктыўнасьць, бесправасьветнасьць, няўпэўненасьць у заўтрашнім дні—гэта лёс рабочых капіталістычных краін. Зусім у іншых умовах знаходзяцца ў нас рабочыя. Гэта зьяўляецца вялізарнейшай перамогай у справе паляпшэньня матэрыяльнага становішча рабочага.

І ў вёсцы, дзякуючы колектывізацыі, значна палепшыўся матэрыяльны дабрабыт сялянства

Беднata і серадвякі вызвалены ад кулацкай кабалы. Колектывізацыя зьнішчыла магчымасьць расслаеньня сялянства. Мільёнчыя масы беднякоў і серадвякоў упяршыню ў гісторыі вызвалены ад кулацкай кабалы, нішчаты. Гэтым самым зьнішчан працэс абнішчэньня і паўпэрызму ў вёсцы.

„Гэта вялізарнае заваяваньне,—гаварыў т. Сталін,—аб якім ня можа марыць ніводная буржуазная дзяржава, будзь яна самай што ні ёсьць „дэмократычнай“ дзяржавай“.

Аб паляпшэньні матэрыяльнага становішча рабочай клясы сьведчыць рост сярэдняй зарплаты на 60—70 проц., рост фонду соцыяльнага страхаваньня на 111 проц. і ахоп грамадзкім харчаваньнем больш 70 проц. асноўных мас рабочай клясы. Бязумоўна мы павінны яшчэ шмат зрабіць у галіне паляпшэньня матэрыяльна-бытавога становішча рабочых і сялян. Тут прадстаіць яшчэ вялізарная, складаная, настойлівая работа кожнай партыйнай організацыі. Але тыя посьпехі і дасягненьні, якія ёсьць у выніку праводзеньня першай пяцігодкі, зьяўляюцца зарукай забесьпячэньня неабходных прадпасылак для далейшага прасоўваньня ўперад у галіне паляпшэньня матэрыяльна-бытавога становішча рабочых і сялян.

У непарыўнай сувязі з палепшаньнем матэрыяльна-бытавога становішча рабочых, колгасных мас знаходзяцца тыя посьпехі, якія мы маем у галіне разгортваньня тавараабароту. Асноўнай формай змычкі гораду з вёскай зьяўляецца вытворчая змычка, але аднэй вытворчай змычкі недастаткова,—гаварыў т. Сталін,—яна павінна быць дапоўнена змычкай тыварнай. І тут мы дабіліся буйнейшых посьпехаў.

„Савецкі гандаль—ёсьць гандаль без капіталістаў малых і вялікіх, гандаль без спэкулянтаў малых і вялікіх. Гэта асобага роду гандаль, якога ня ведала дагэтуль гісторыя, які практыкуем мы, бальшавікі, ва ўмовах савецкага разьвіцьця“ (*Сталин*).

Нашы перамогі ў галіне прамысловасьці, сельскай гаспадаркі, гандлю канчаткова вышыблі з каляі рэшткі аджываючых капіталістычных кляс, прамыслоўцаў, памешчыкаў, былых дваран, кулакоў, падкулачнікаў, афіцэраў і т. д. Усе гэтыя разгромленыя, але яшчэ недабітыя элемэнты рассыпаліся па твару нашай савецкай краіны. Яны пранікаюць у нашы савецкія ўстановы, прадпрыемствы, колгасы, саўгасы. Дзе-ні-дзе яны нават пранікалі ў рады партыі. Прасякнуты выключнай нянавісьцю да савецкай улады, партыі, да рабочай клясы, да справы будаўніцтва соцыялізму, гэты элемэнт організуе шкодніцкія акты, раскрадае грамадзкую ўласнасьць. Актыўнасьць рэштак капіталістычных элемэнтаў праявілася асабліва ў вёсцы, дзе яны організуюць сабатаж дзяржаўных загатовак, распальваючы дробна-ўласьніцкія інстынкты адсталых груп колгасьнікаў і сялян-аднаасобнікаў. Рэшткі разгромленых капіталістычных кляс ужываюць цяпер новую тактыку ў сваёй барацьбе. Замест адкрытай атакі, у якой яны былі разьбіты і якую цяпер яны ўжываць больш ня могуць, яны дзейнічаюць ціхай сапай: стараюцца, дзе толькі магчыма і як

толькі магчыма, пакасьціць і шкодзіць, зрываць і раскрадваць, узрываць нас знутры, шкодзіць і перашкаджаць нашаму соцыялістычнаму будаўніцтву.

Мы павінны з усёй рашучасьцю і ўменьнем выкрываць новыя манэўры клясавага ворага, сарваць з яго маску і дабіць яго канчаткова.

„Моцная і магутная дыктатура пролетарыяту — вось што нам трэба зараз, каб разьбіць ушчэнт астатнія рэшткі паміраючых кляс і разьбіць іх зладзейскія махінацыі“—так гаварыў т. Сталін на пленуме ЦК.

Тав. Сталін з усёй сілай падкрэсьліў, што вынікі пяцігодкі разьбілі сьцьверджаньні буржуазных і соцыял-дэмократычных пісак аб тым, што пяцігодка—гэта неажыцьцявімая фантазія або палітычная авантура, што рабочая кляса здольна толькі руйнаваць, але не будаваць. Вынікі пяцігодкі яшчэ і яшчэ раз паказалі ўсю бязгрунтоўнасьць контррэволюцыйнага тэзісу трацкістаў аб немагчымасьці пабудовы соцыялізму ў адной краіне. Вынікі пяцігодкі яшчэ і яшчэ раз даказалі ўсю бязгрунтоўнасьць капітулянцкіх, па сутнасьці кулацкіх сьцьверджаньняў правых опортуністаў. Вынікі пяцігодкі паказалі, што за кароткі адрэзак часу партыя, кіруючы рабочай клясай і сялянствам, аказалася здольнай стварыць соцыялістычны тып гаспадаркі, які аказаўся больш устойлівым і дасканалым, чым капіталістычная сыстэма, якая расхістваецца ў самай сваёй аснове жорсткім экономічным крызісам. Вынікі пяцігодкі паказалі, як гэта было падкрэслена т. Сталіным, што партыя „непераможна, калі яна ведае, куды весьці справу і не баіцца труднасьцяй“. Наш ленінскі ЦК, пад кіраўніцтвам т. Сталіна, не баяўся труднасьцяй. ЦК ведаў, куды вядзе партыю, і гэтым забясьпечыў посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва.

Посьпехі пяцігодкі ня могуць быць зразумелы па за тэй барацьбой, якую вяла і вядзе партыя з контррэволюцыйным трацкізмам, трацкісцкай контрабандай і з правым опортунізмам, прымірэнцтвам і гнілым лібэралізмам, з усімі ўхіламі ад генэральнай лініі партыі.

Вынікі першай пяцігодкі—гэта перамога генэральнай лініі партыі, гэта—факт, які найбольш выдаецца ў сучаснай гісторыі.

Гэта вымушаны былі на гэтым-жа пленуме заявіць былыя лідэры правай опозыцыі.

Пленум ЦК разгледзеў і ўстанавіў плян нашай работы на 1933 г.

Пленум устанавіў для другой пяцігодкі менш паскораныя тэмпы нашага разьвіцьця і, прынамсі, для першых двух год зрабіў галоўны упор на асваеньне новых прадпрыемстваў і новай тэхнікі. Калі тэмпы разьвіцьця прамысловасьці ў першай пяцігодцы давалі ў сярэднім 22 проц. гадавога прыросту, то ў другой пяцігодцы гэтыя тэмпы скарачаюцца да 13—14 проц., прычым для 1933 г. прырост устаноўлен у 16,5.

Гэта ні ў якай меры не азначае ні малейшага нашага адступленьня на фронце соцыялістычнага будаўніцтва. Калі мы гаворым аб менш паскораных тэмпах нашага разьвіцьця, то трэба мець на ўвазе, што агульны размах работы ні ў якай меры не скарачаецца, прычым 16 проц. пры-

росту прамысловай продукцыі ў першым годзе другой пяцігодкі ў цэнасным выражэньні прадстаўляе сабою суму значна большую, чым 22 проц. гадавога прыросту ў першай пяцігодцы.

Адзін процант прыросту ў другой пяцігодцы зьяўляецца значна большы ў абсолютных разьмерах, чым кожны процант прыросту ў першай пяцігодцы. Адзін процант прыросту прамысловай продукцыі ў 1933 г. складае 320—340 млн. руб. у той час, калі 1 проц. прыросту ў 1925 г. раўняўся 43 млн. руб., у 1928 г.—120 млн. руб., а ў 1931 г.—250 млн.

Народна-гаспадарчы плян 1933 г. прадугледжвае далейшы рост у галіне выпуску валавой продукцыі. Будзе выпушчана продукцыі на 34 млрд. супроць 29,2 млрд. у 1932 г., капіталаўкладаньняў у прамысловасьць звыш 10 млрд. супроць 9 млрд. у 1932 г. і т. д.

Але асноўны ўпор бярэцца ня толькі на колькасны рост продукцыі, але і на паляпшэньне якасьці, на павышэньне продукцыйнасьці працы, на асваеньне новай тэхнікі, якая ёсьць на нашых новых заводах. Наша галоўная задача заключаецца ў тым, каб мы дапоўнілі энтузіязм, пафос будаўніцтва першай пяцігодкі—пафосам асваеньня новых заводаў, новай тэхнікі.

Пры вырашэньні гэтай задачы галоўная ўвага павінна быць зьвернута на рост продукцыйнасьці працы, зьніжэньне сабекошту.

„Продукцыйнасьць працы,—гэта ў канчатковым выніку самае галоўнае, самае важнае для пабудовы новага грамадзтва—гэта значыць соцыялізму",—гаварыў т. Ленін.

Ленін гаварыў, што павышэньне продукцыйнасьці працы залежыць ня толькі ад соцыялістычнай організацыі спаборніцтва, але і ад „прымяненьня прымушэньня так, каб лёзунг дыктатуры пролетарыяту не апаганьваўся практыкай кісяляпадобнага становішча пролетарскай улады".

З гэтых указаньняў т. Леніна і выходзяць мерапрыемствы партыі па барацьбе з прагуламі, па рабочым забесьпячэньні і іншыя, якія мы павінны былі выканаць з усёй паўнатой і суровасьцю.

Прамова т. Сталіна „Аб рабоце ў вёсцы" зьяўляецца дакумантам вялізарнейшай палітычнай важнасьці. Гэта прамова зьяўляецца ўзорам бальшавіцкай, ленінскай самакрытыкі і ўзбройвае партыю і рабочую клясу ленінскім разуменьнем новай абстаноўкі і новых задач, у прыватнасьці нашай работы ў вёсцы. Прамова т. Сталіна—баявая програма бальшавіцкіх дзеяньняў для ўсіх партыйных організацый нашага Саюзу.

Тав. Сталін зьвярнуў увагу на той факт, што нашы парторганізацыі ня ўлічылі новай абстаноўкі, якая склалася ў выніку вядомых пастаноў ЦК УсеКП(б) і СНК аб колгасным гандлі, які мае ня толькі станоўчыя, але і адмоўныя бакі. Колгасны гандаль дае магчымасьць кожнаму колгасьніку прадаваць некаторую колькасьць продуктаў на рынку па цэнах, значна больш высокіх, чым дзяржаўныя. Мясцовыя організацыі, замест таго, каб выкарыстаць колгасны гандаль у якасьці стымулу для датэрміновага выкананьня пляну загатовак, як першачарговай задачы, стаячай перад імі, заняліся ства-

рэньнем усялякіх фондаў тапарнай продукцыі для колгаснага гандлю, глядзелі скрозь пальцы на гандаль і спэкуляцыю хлебам, а адносна выкананьня сваіх абавязкаў перад дзяржавай забыліся, або аднесьлі іх на апошняе месца.

Тав. Сталін далей указваў, што многія организацыі, дабіўшыся вялікіх посьпехаў у справе колектывізацыі, спачылі на лаўрах, прадаставіўшы справу натуральнаму ходу рэчаў, прадаставіўшы справу самацёку, думаючы, што колектывізацыя сама зробіць сваю справу, сама падыме сельскую гаспадарку. Парторганізацыі ня ўлічылі таго, што ў сувязі з колектывізацыяй,—як пераважнай формай сельскай гаспадаркі,—наша адказнасьць за далейшы ўздым сельскай гаспадаркі значна больш узрасла, павялічылася кіруючая роля комуністаў у справе рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, адгэтуль узрастае і ступень нашага кіраўніцтва.

Наступным важным недахопам у кіраўніцтве сельскай гаспадаркай з боку парторганізацый зьявілася пэўная ідэалізацыя колгасаў, як соцыялістычнай формы гаспадаркі. Выабражалі, што „калі даны колгасы, то дано ўсё неабходнае для набудовы соцыялізму, памылкова думаючы, што члены колгасу ўжо ператварыліся ў соцыялістаў“, забыліся, што „прыдзецца яшчэ шмат папрацаваць над тым, каб перарабіць селяніна колгасу, выправіць яго індывідуалістычную псыхолёгію, зрабіць з яго сапраўднага работніка соцыялістычнага грамадзтва“. Колгасы—толькі соцыялістычная форма гаспадаркі, трэба яе яшчэ насыціць соцыялістычным зьместам

Тав. Сталін з асаблівай сілай падкрэсьліў задачы вылучэньня на кіруючую работу ў колгасах сапраўдных бальшавікоў, якія-б здолелі згуртаваць вакол сябе колгасны актыў для таго, каб сапраўды рушыць уперад справу організацыйна-гаспадарчага і палітычнага ўмацаваньня колгасаў. „Трэба памятаць, — гаварыў т. Сталін,—што колгасы могуць быць або бальшавіцкімі, або антысавецкімі і калі мы ня кіруем у тых або іншых колгасах, то гэта значыць, што імі кіруе антысавецкі элемэнт“.

„Трэба ўмець,—гаварыў т. Сталін,—вразумець новую абстаноўку і бачыць махінацыі клясавага ворага, які значна зьмяніў сваю тактыку. Цяперашнія кулакі і падкулачнікі, цяперашнія антысавецкія элемэнты ў вёсцы большай часткай людзі „ціхія“ салодзенькія, амаль сьвятыя. Іх ня трэба шукаць далёка ад колгасаў, яны сядзяць у самім колгасе і займаюць там пасады кладаўшчыкоў, загадчыкаў гаспадаркі, рахункаводаў, сакратароў. Яны ніколі ня скажуць „далоў колгас“, яны „за“ колгасы. Але яны вядуць у колгасе такую саботажніцкую, шкодніцкую работу, што колгасам ад іх не паздаровіцца“. Выкрываючы пабальшавіцку ўсе недахопы нашай работы, т. Сталін гаварыў на пленуме: „Мы вінаваты ў тым, што не разглядзелі новай абстаноўкі, не ўясьнілі сабе новай тактыкі клясавага ворага, які дзейнічае ціхай сапай... Не ў сялянах трэба шукаць прычыны перашкод з хлебазагатоўкамі, а ў нас саміх, у нашых уласных радох, бо мы стаім на чале ўлады, мы маем у сваім распараджэньні

сродкі дзяржавы, мы закліканы кіраваць колгасамі і мы павінны несьці ўсю паўнату адказнасьці за работу ў вёсцы".

Гэтыя ўказаньні т. Сталіна цалкам і поўнасьцю адносяцца да нашай работы ў вёсцы. І мы павінны неадкладна, не на словах, а на справе перабудаваць усю нашу работу ў адпаведнасьці з указаньнямі правадыра партыі.

Якія-ж задачы стаяць зараз перад КП(б)Б?

БССР за гады пяцігодкі мае вялізарнейшыя дасягненьні. Па тэмпах росту продукцыі БССР апярэджвае ўсесаюзныя тэмпы. Сярэдні гадавы прырост валавой продукцыі прамысловасьці ў БССР за гады першай пяцігодкі складае 46 проц., па СССР—22 проц. Валавая продукцыя прамысловасьці БССР за гады пяцігодкі павялічылася больш, чым на 477 проц. З 118327 тыс. у 1928 г. да 540742 тыс. у 1932 г. Такія тэмпы зьяўляюцца бліскучым выражэньнем бальшавіцкага правядзеньня нацыянальнай політыкі партыі і забясьпечваюць падцягваньне раней адсталых нацыянальных акраін да ўзроўню перадавых рэспублік Саюзу. За гады пяцігодкі мы пабудавалі ў БССР 75 новых прадпрыемстваў, узброеных навейшай тэхнікай. Мы за гэтыя гады амаль нанова рэконструявалі больш, чым на 80 проц. 17 буйнейшых заводаў БССР. Капіталаўкладаньні ў нашу прамысловасьць узрасьлі за гэтыя гады з 32147 тыс. руб. у 1928 г. да 85787 тыс. у 1932 г.

На аснове бальшавіцкіх тэмпаў першай пяцігодкі, мы маем вялізарны рост рабочай клясы БССР. Лік рабочых павялічыўся за гэтыя гады з 36,2 тыс. да 97,2 тыс.

Па лініі разьвіцьця культуры мы таксама маем вялізарныя дасягненьні. У нас да тэрміну ажыцьцёўлена ўсеагульная пісьменнасьць, лік школ першай ступені ўзрос з 5688 да 8018. Лік вучняў у іх узрос з 502104 да 750104. Процант беларускіх школ павялічыўся больш, чым на 21 проц. Мы маем вялізарны рост навукова-дасьледчых установаў, рост ВНУ і ВТНУ і тэхнікумаў. У нас зараз 32 ВНУ супроць прадугледжаных пяцігодкай трох, з лікам вучняў 15132 чал.; замест прадугледжаных плянам 37 тэхнікумаў мы маем 130 з колькасьцю 32200 студэнтаў.

Значныя дасягненьні мы маем у галіне соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Даволі толькі паглядзець на экономічную карту БССР, каб убачыць, як уся яна пакрыта саўгасамі, МТС. Калі да гэтага дадаць колгасы, то атрымаецца зусім новая карта. За гады пяцігодкі лік саўгасаў у БССР павялічыўся з 210 да 429. Лік колгасаў з 611 да 8910. Лік трактараў узрос з 123 да 2822. Пасеўная плошча за гэтыя гады ўзрасла больш, чым на 500000 *га.* Мы стварылі на вёсцы ўсе ўмовы для таго, каб па-бальшавіцку ўзяцца за павышэньне ўраджайнасьці, за паляпшэньне якасьці работы сельскайгаспадаркі.

Вялізарныя дасягненьні БССР асабліва ярка выступаюць на фоне катастрофічнага заняпаду гаспадаркі і культуры ў Польшчы і Заходняй Беларусі.

За апошнія гады выплаўка чыгуну ў Польшчы ўпала да 40 проц.

к даваеннаму часу, выплаўка мэталю—да 36 проц., пракат мэталю—22,7 проц. Беспрацоўе—гэты біч працоўных капіталістычных краін набыло колёсальныя разьмеры ў Польшчы. Агульны лік беспрацоўных у Польшчы дасягнуў звыш 1,5 млн. чалавек. Асабліва вялікае беспрацоўе сярод тэкстыльных рабочых у Польшчы, дзе асталося на рабоце толькі 97 тыс. чалавек, замест 188 тыс. чал., працаваўшых у тэкстыльнай прамысловасьці ў 1927 г.

Ня лепшае становішча ў Польшчы і Заходняй Беларусі ў сельскай гаспадарцы. Становішча спраў зараз там такое, што выдаткі, пры параўнаньні з даваенным часам, нават паводле даных буржуазнага друку, павялічыліся ў 4 разы. Цэны на сельскагаспадарчыя продукты настолькі зьнізіліся, што не пакрываюць расходаў па ўборцы і пераапрацоўцы, скажам, такой культуры, як лён, не гаворачы ўжо аб затратах на пасеў. Усё гэта вядзе да масавай нішчаты, да голаду, памножанага на палітыку жорсткага фашысцкага тэрору, нацыянальнага прыгнечаньня беларусоў і ўсіх працоўных Польшчы.

Аднак, ня гледзячы на вялізарныя дасягненьні ў галіне разьвіцьця прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, БССР у пачатку сьнежня 1932 г. аказалася з прарывам на фронце хлебазагатовак, хоць хлебазагатоўчы плян у гэтым годзе быў значна ніжэй мінулага году. Прычыны такога прарыву з вычарпальнай паўнатой былі ўскрыты ў пастанове ЦК УсеКП(б) аб ходзе загатовак у БССР. У гэтым дакуманце ЦК партыі з усёй бальшавіцкай паўнатой даў нам, КП(б)Б, справядлівую ацэнку нашай работы ў справе сельскагаспадарчых загатовак.

З боку партыйных і савецкіх організацый БССР былі праяўлены гнілыя лібэральныя адносіны ў справе сельскагаспадарчых загатовак. Пасьля пастановы ЦК партыі мы дабіліся значнага пераломy ў ходзе загатовак. Па хлебазагатоўках мы выканалі плян да тэрміну, які быў даны нам ЦК. Зараз мы маем перавыкананьне пляну (110 проц.). Па мясазагатоўках мы выканалі плян у тэрмін. Перавыканалі мы плян і па бульбазагатоўках. Кепска ідуць у нас ільназагатоўкі, з вялікімі труднасьцямі і перабоямі. Ільназагатоўчы апарат аказаўся выключна слабым, гнілым апаратам, які ня толькі не праводзіў на справе лінію нашай партыі, але па сутнасьці справы займаўся „очковтирательством". Калі справа дайшла да праверкі тых даных, якія мы атрымалі ад Загатільну, то нам прышлося скасьціць 6—7 проц. Зараз прынят цэлы рад мер для таго, каб выправіць гэту справу. І ёсьць упэўненасьць, што плян ільназагатовак будзе выканан у тэрмін.

У ходзе загатовак мы выкрылі рад контррэволюцыйных, шкодніцкіх організацый, выявілі, наколькі наш апарат засьмечан клясававарожымі элемэнтамі. Мы мелі шкодніцтва ў сыстэме Наркомзему, у галіне жывёлагадоўлі. Тое-ж самае па лініі Трактарацэнтру. Я ўжо не гавару аб справах у Белдзяржснабе, якія ўсім вядомы. Гэта паказвае, што нам прадстаіць яшчэ колёсальная работа ў справе ўпарадкаваньня нашых гаспадарчых і савецкіх





апаратаў, у справе ачысткі іх ад контррэволюцыйных і шкодніцкіх элемэнтаў.

Зусім натуральна, што элемэнты контррэволюцыі накіроўваюць свае ўзрокі на тую тэрыторыю, якая блізка сутыкаецца з-за-граніцай. Імення таму для нас з усёй сілай паўстае задача, каб ператварыць нашу прыгранічную рэспубліку ў сапраўды ўзорную краіну, выгнаўшы адсюль усё антысавецкае, усё перарадзіўшаеся, усё тое, што нам перашкаджае. Тут трэба правесьці вялікую бальшавіцкую работу так, каб рука ня дрогнула.

Тая работа, якая ў нас была правільна праведзена ў часе хлебазагатовак, спрыяла значнаму павышэньню аўторытэту і ўплыву партыі і савецкай улады сярод беднаты, серадняко̂ў і колгасьнікаў.

Праведзеныя мерапрыемствы ў ходзе хлебазагатовак паказалі сялянам, асабліва аднаасобнікам, што савецкая ўлада зьяўляецца сапраўды аўторытэтнай і моцнай уладай, што яна добрасумленна, па-савецку падыйшла да пытаньняў выкананьня колгасьнікамі, аднаасобнікамі сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай. Упяршыню за шмат гадоў у радзе раёнаў поўнасьцю выкананы плян па сельскагаспадарчых загатоўках. Але мы не абмяжоўваемся толькі выкананьнем пляну па раёнах, мы дамагаемся поўнага выкананьня пляну кожным сельсаветам, кожным насельным пунктам, кожнай паасобнай гаспадаркай. І такая пастаноўка справы зьяўляецца адзіна правільнай, адзіна бальшавіцкай. Толькі такім шляхам можа быць сапраўды замацован аўторытэт улады і партыі.

Мы выявілі цэлы рад цікавых фактаў у хлебазагатоўках. Напрыклад аднаасобніку належыць здаць 5 пудоў збожжа. І вось атрымліваецца, што гэты селянін мае на гэтыя 5 пудоў 15 запісак. Чым гэта тлумачыцца? А вось чым. Прыедзе, скажам, упаўнаважаны сельсавету, селянін падумае, павязе 5 фунтаў і чакае, можа міма яго пройдзе навальніца. Праз некалькі дзён зноў хто-небудзь прыедзе, ён зноў павязе 5—10 фунтаў. І вось на 5 пудоў збожжа ён прад'яўляе 15 запісак, г. зн., што ён 15 разоў езьдзіў здаваць 5 пудоў збожжа. 15 разоў лічыў неабходным абыходзіць савецкую ўладу і такі, нарэшце, здаўшы ўсе 5 пудоў збожжа, прыходзіў да канчатковага пераканаьня ў тым, што правільна зрабілі, патрабаваўшы поўнага выкананьня дзяржаўных абавязацельстваў і што крэпасьць савецкай дзяржавы зьяўляецца несакрушальнай.

У ходзе загатовак, у ходзе бязьлітаснай барацьбы з кулацтвам, з перараджэнцкімі элемэнтамі на вёсцы вырас, згуртаваўся новы моцны, савецкі актыў. Людзі пачынаюць цяпер працаваць па-новаму, пачынаюць разумець, у чым справа. І наша задача—падтрымаць гэты новы актыў; моцна яго падтрымаць, інакш мы ня справімся з сяўбой.

Мы ня справімся з задачамі сяўбы, калі конкрэтна, пабальшавіцку, па-дзелавому не організуем яе падрыхтоўкі, калі ня будзем ведаць, хто адказвае за трактар у часе сяўбы, хто адказвае за рамонт яго, хто займаецца угнаеньнем, хто ахоўвае сабранае насеньне, хто яго ачышчае. Нам трэба дабіцца ў нашай ра-

боце сапраўднай опэратыўнасьці, сапраўды бальшавіцкага веданьня справы. Нам трэба дабіцца, каб усюды на мясцох адчувалася, што, уступаючы цяпер у другую пяцігодку, мы ня толькі не паслабляем, але ўсямерна ўзмацняем тэмпы нашай работы ў сэнсе якасьці, чоткасьці, у сэнсе конкрэтнасьці, заваструючы барацьбу з агульнасьцю, славеснай дэклярацыйнасьцю, алілуйшчынай у рабоце.

Нам трэба ў нашай рабоце самым жорсткім чынам распраўляцца з элемэнтамі месьніцтва, групаўшчыны, рвацтва.

Як я ўжо ўказваў, мы маем вялікія дасягненьні ў галіне правядзеньня ленінскай нацыянальнай палітыкі. Але клясавы вораг, кулацкія, буржуазна-нацыяналістычныя элемэнты, рэшткі нацдэмаўшчыны, выступаючы супроць нашага будаўніцтва, прыкрываюць часта сваю антысавецкую работу фальшывым нацыянальным сьцягам. Мы на гэтым вучастку фронту павінны ўзмацніць нашу рэволюцыйную пільнасьць. Мы павінны і надалей весьці самую рашучую і непрымірымую барацьбу супроць вялікадзяржаўнага шовінізму, гэтай галоўнай небясьпекі ў нацыянальным пытаньні. Я нікольки не сумняваўся, што калі-б рад нашых партыйных організацый глыбей праверыў работу многіх нашых організацый і ўстаноў, то мы выявілі-б там ня мала яшчэ вялікадзяржаўнікаў, якіх неабходна прыгвазджаваць да ганебнага слупа. Але ў той-жа самы час мы павінны ўзмацніць нашу барацьбу з рэшткамі нацдэмаўшчыны, з нацыянал-опортуністычнымі элемэнтамі, якія прыкрываюцца фальшыва-нацыянальным сьцягам. Толькі яўныя опортуністы, наскрозь пратухлыя гнілыя лібэралы могуць разьлічваць на тое, што такія элемэнты, як Таўкач (былы нацдэм), які сядзеў у Белдзяржснабе, або Бялуга (Белкоопсаюз) могуць забясьпечыць правільнае правядзеньне нашай нацыянальнай політыкі.

Урокі загатовак па БССР абавязваюць нас да яшчэ большага ўзмацненьня рэволюцыйнай пільнасьці, да яшчэ большай мобілізаванасьці нашых радоў для забясьпечаньня рашаючых посьпехаў у справе вясеньняй сяўбы. Мы маем усе ўмовы для таго, каб паставіць нашу работу на больш высокую ступень. Гэта паказвае, між іншым, і вопыт 1932 г. Даволі, каб ЦК УсеКП(б) нас падхліснуў, як мы хутка спраўляемся з пастаўленымі задачамі і ў самы кароткі тэрмін выконваем нашы задачы. Аб чым гэта гаворыць? Гэта гаворыць аб тым, што ў нас ёсьць усе ўмовы, каб па-бальшавіцку разгарнуць работу па соцыялістычным будаўніцтве, што ў нас ёсьць умовы для таго, каб сапраўды ператварыць БССР ва ўзорную соцыялістычную савецкую рэспубліку.

За апошні час у партыі былі выкрыты антыпартыйныя групоўкі: увосень мінулага году— група Руціна-Сьляпкова, у апошні час Эйсмонта-Талмачова. Урокі гэтых груповак паказваюць, што ўсякая спроба рэвізіі генэральнай лініі партыі з немінучасьцю вядзе ў лягер контррэволюцыі.

У чым політычная сутнасьць плятформы групоўкі Эйсмонта, Талмачова і Сьмірнова? Сутнасьць яе ў тым, што яна

накіравана супроць генэральнай лініі партыі, супроць індустрыялізацыі, супроць колектывізацыі. Таксама, як програма контррэволюцыйнай групы Руціна-Сьляпкова, пляцформа Эйсмонта-Талмачова была накіравана сваім політычным зьместам супроць партыі, супроць ленінскага партыйнага кіраўніцтва. І гэта зразумела, таму што ленінскае кіраўніцтва нашай партыяй увасабіла ў сабе ўсё тое лепшае, усё тое моцнае, што мае наша партыя.

Перад тварам нашых выключных посьпехаў, якія вымушаны прызнаць нашы ворагі за рубяжом, антыпартыйныя, антысавецкія групоўкі не выступаюць адкрыта супроць генэральнай лініі партыі. Яны адкрыта не бяруць пад сумненьне лінію на індустрыялізацыю і колектывізацыю сельскай гаспадаркі. Яны організуюць усякага роду плёткі, падпольныя гутаркі, мусіруюць ілжывыя чуткі, провокацыі, ужываюць усялякія манэўры, шляхам вечарынак і п'янак, згуртоўваюць сабе антыпартыйныя, антысавецкія групоўкі. Аналёгічныя факты мы мелі тут па Менску, па Мазыры. Тут таксама пачынаецца з вечарынак і пасьля гутаркі пачынаюцца сумненьні, а калі прыкмячаюць, што той ці іншы клюе, тады пачынаюць яго паціху ўцягваць.

Рашэньнем пленуму Эйсмант і Талмачоў, як вы ведаеце, выключаны з партыі. Сьмірнову зроблена апошняе папярэджаньне і ён выведзен са складу ЦК. Пленум адзначыў, што позыцыя былых лідэраў правай опозыцыі Томскага і Рыкава, якія стаялі ўбаку ад барацьбы з антыпартыйнымі элемэнтамі, патуралі гэтай контррэволюцыйнай групе, зьяўляецца далей нецярпімай. Пленум запатрабаваў ад былых лідэраў опозыцыі Томскага і Рыкава карэннай перамены сваіх паводзін. Справа цяпер заключаецца ня толькі ў тым, каб яны, выступаючы на пленуме, абмежаваліся прызнаньнем генэральнай лініі партыі. Гэтага абсалютна недастаткова. Галоўнае зараз, чаго патрабуе партыя,— гэта біцца за генэральную лінію партыі ў сваёй штодзеннай практычнай рабоце.

Бальшавіцкую непрымірымасьць да ўсякага роду ўхілаў і адхіленьняў ад лініі партыі мы павінны праводзіць на кожным вучастку работы. Буржуазны перараджэнец, кулацкі агент унутры партыі зьяўляецца найбольш небясьпечным ворагам. Ад яго трудней пазбавіцца, бо яго трэба папярэдня выкрыць. Дзякуючы гэтаму мы павінны завастрыць нашу бальшавіцкую пільнасьць у сваіх уласных радох, каб вызваліцца ад опортуністычнай гнілі, ад перараджэнцкіх элемэнтаў, якія прабуюць нанесьці нам удар у сьпіну. Пастанова пленуму аб чыстцы ставіць перад намі задачу далейшага згуртаваньня і ўмацаваньня бальшавіцкіх радоў партыі. Толькі ўмацоўваючы бальшавіцкае адзінства і баяздольнасьць партыі ў барацьбе за генэральную лінію супроць правага ўхілу як галоўнай небясьпекі, „левых“ загібаў і прымірэнцтва да іх, гнілога лібэралізму, супроць контррэволюцыйнага трацкізму, супроць ухілаў у нацыянальнай політыцы, мы пасьпяхова справімся з задачамі першага году другой пяцігодкі.

Таварышы! Партыя, кіруемая найвялікшым саратнікам Леніна, т. Сталіным, бязумоўна, даб'ецца новых перамог у барацьбе за соцыялізм. Гаворачы аб нашых дасягненьнях, гаворачы аб тых задачах, якія перад намі стаяць, гаворачы аб нашай нацыянальнай палітыцы, гаворачы аб будаўніцтве соцыялізму у БССР, мы няміnуча заўсёды будзем прыходзіць да аднаго надзвычай важнага выніку, да таго выніку, што мы ўсе бачым у т. Сталіне правадыра, які побач з агульнымі пытаньнямі па кіраўніцтву вялізарным соцыялістычным будаўніцтвам у СССР, пытаньнямі кіраўніцтва рэволюцыйным рухам на ўсім сьвеце, умее конкрэтна кіраваць кожным вучасткам нашай работы. Ён умее на кожным вучастку нашай работы папярэдзіць небясьпеку, павярнуць нашы організацыі на правільны шлях, умее наносіць сакрушальныя ўдары ворагам генэральнай лініі партыі.

Невыпадкова правыя і „левыя“ опортуністы, трацкісты ў барацьбе супроць лініі ЦК накіроўвалі свой удар супроць кіраўніцтва ЦК, супроць т. Сталіна. Выступаючы на студзеньскім пленуме ЦК, т. Томскі гаварыў:

„Я сам неаднакроць выступаў у пэрыод маёй опозыцыйнай дзейнасьці з крытыкай рэжыму партыі, з нападкамі на правадыра партыі т. Сталіна. Зразумела, я выступаў тады так не таму, што меў якія-небудзь асабістыя повады, або не паважаў т. Сталіна. Надта шмат гадоў ведаю яго па сумеснай рабоце, як пасьлядоўнага бальшавіка і непахіснага рэволюцыянэра, каб нешта падобнае магло мець месца—а з тэй прычыны, што, выступаючы і змагаючыся супроць лініі партыі, правая опозыцыя, і я ў тым ліку, сконцэнтроўвалі свае нападкі і на т. Сталіне таму, што ён зьяўляўся ідэолёгам, організатарам, кіраўніком усёй практычнай работы і правадыром партыі, таму што ён быў найбольш яркай фігурай у кіраўніцтве, таму што ў яго політычна найбольш зоркае вока і цьвёрдая рука, таму што ён заўсёды найбольш рашуча выступаў супроць усякага ўхілу, быў стойкім і пасьлядоўным барацьбітом за лінію партыі“.

Уся партыя, уся рабочая кляса, усе працоўныя і ня толькі СССР ведаюць т. Сталіна, любяць яго таму, што т. Сталін быў, ёсьць і будзе найвялікшым прадаўжальнікам справы Леніна па будаўніцтве соцыялізму ў нашай краіне, таму што ён ня толькі цяпер, але і да першай пяцігодкі быў правадыром партыі, рабочай клясы, здолеў намеціць задачы першай пяцігодкі, згуртаваўшы вакол іх мільённыя масы, і даць рашучы адпор усім опортуністам у барацьбе за справу соцыялізму і сусьветнай пролетарскай рэволюцыі.

Канчаючы свой даклад, т. Сталін гаварыў, што „наша партыя непераможна, калі яна ведае, куды весьці справу і не баіцца труднасьцяй“. Мы можам з непарушнай упэўненасьцю сказаць, што такая партыя ў нас ёсьць і што гэта партыя, на чале з т. Сталіным,—найвялікшым саратнікам Леніна, абсолютна непераможна.

Няхай жыве т. Сталін!

# Баявыя пытаньні

## ПАРТВУЧОБЫ

*Макоўскі*

## ПЕРАПАДРЫХТОЎКА І ПАДРЫХТОЎКА ПАРТРАБОТНІКАЎ ПРЫ ЦК КП(б)Б (КУРСЫ РАЙПАРТАКТЫВУ)

У сакавіку 1931 г. Цэнтральным комітэтам УсеКП(б) была дана дырэктыва аб організацыі ЦК нацкомпартый, крайкомамі і абкомамі спэцыяльных курсаў рэзэрву кіруючых раённых партыйных работнікаў. За ўводзінах да пляну Оргбюро ЦК УсеКП(б) („Партстроительство" № 5 за 1931 г.) адзначана:

„Для стварэньня неабходнага рэзэрву падрыхтаваных кіруючых работнікаў безадкладна організаваць спэцыяльныя паўгадовыя курсы раённых работнікаў ня менш чым на 200 чалавек".

Ужо ў маі месяцы было прыступлена да організацыі пры ЦК КП(б)Б 6-месячных курсаў кіруючага раённага партыйнага актыву.

Першае скліканьне курсаў пачало сваю работу з чэрвеня 1931 г. ЦК КП(б)Б вызначыў агульны контынгент для першага скліканьня ў 150 асоб, фактычна-ж прыбыло 140 асоб.

Заснаваны курсы ў г. Менску, на тэрыторыі былой сельскагаспадарчай выстаўкі. Для першага скліканьня ўмовы для вучобы былі спрыяючыя: для інтэрнату курсаў быў скарыстан былы „лясны павільён" побач з паркам „культуры і адпачынку"; у вольны час слухачы займаліся фізычнай культурай; харчаваньне было санаторнае.

Ня гледзячы на тое, што вучэбны плян быў напружаным, слухачы займаліся штодзенна па 8 гадзін. Удзельнікі курсаў першага скліканьня здолелі поўнасьцю сумясьціць вучобу з барацьбой за здаровы адпачынак, за рамонт свайго здароўя.

Раённыя комітэты партыі не адразу ўлічылі важнасьць добраякаснага комплектаваньня курсаў. У асноўным запатрабаваньне аб наяўнасьці 3-гадовага партыйнага стажу командыруемых 70 проц. складу рабочых па соцстану і 30 проц. жанчын было выканана, але па вопыту партыйнай работы і па сваёй падрыхтаванасьці слухачы вельмі рэзка розьніліся адзін ад другога.

Усе слухачы былі разьбіты па сваёй падрыхтаванасьці па

4 групы з адзінай праграмай. Меркавалася апошнія 2 месяцы весьці занятків з слухачамі курсаў, падзеленымі на групы паводле тэрытарыяльна вытворчага прынцыпу, але гэта не ўдалося.

Да 20 слухачоў былі датэрмінова Цэнтральным комітэтам партыі з курсаў зьняты і пасланы на кіруючую, савецкую і партыйную работу.

Скончылі курсы першага склікаsuccession 120 асоб, якія былі разьмеркаваны наступным парадкам: загадчыкамі оргінструктарскіх аддзелаў РК КП(б)Б было вызначана 4, загагітмасаддзеламі РК—6, загкультпропаў РК КП(б)Б—1, жаноргамі РК КП(б)Б—10, пропагандыстымі РК КП(б)Б—6 і адказнымі работнікамі РКК РСІ—7; 6 таварышоў было паслана на газэтную работу. 10—сакратарамі партколектываў, астатнія на нізавую партыйную і адміністрацыйна-гаспадарчую работу. Асноўным недахопам курсаў першага скліканьня зьяўлялася недастатковае ўдасканаленьне мэтавай устаноўкі курсаў, адсутнасьць дастатковай дыфэрэнцыяцыі ў вучэбнай рабоце. Гэта было ўлічана пры наборы другога скліканьня курсаў.

Курсы другога скліканьня пачалі сваю работу з студзеня месяца 1932 г. Работа курсаў была дыфэрэнцыявана; былі арганізаваны асобныя аддзяленьні для оргпартработнікаў РК КП(б)Б, для сакратароў апорных ячэек, для культпропработнікаў, агітмасавых работнікаў. Апрача таго была створана адна польская група і група газэтных работнікаў.

На курсы другога скліканьня прыбыло 185 асоб, але да 25 асоб было датэрмінова ўзята з курсаў для работы ў якасьці дырэктараў і контралёраў саўгасаў. За два выпускі курсы здолелі даць: 6 заг. оргінстрамі РК КП(б)Б. 11 загадчыкаў агітмасаддзеламі РК КП(б)Б, 3 загадчыкі культпропаў РК КП(б)Б, 20 жаноргаў, 18 пропагандыстаў, 14 работнікаў КК РСІ, 15 сакратароў вытворчых партколектываў і ячэек, 14 работнікаў раённых газэт і т. д.

Паказальнікі гэтыя зьяўляюцца ня зусім здавальняючымі, калі прыняць пад увагу, што курсы павінны былі рыхтаваць у пераважнай большасьці таварышоў для кіруючай раённай партыйнай работы. Гэта тлумачыцца тым, што і да апошняга часу паасобнымі РК КП(б)Б недаацэньваецца значэньне курсаў рэзэрву і на курсы пасылаюцца такія таварышы, якіх па сканчэньні апошніх немагчыма будзе скарыстаць на адказнай рабоце. У сувязі з гэтым уносяцца зьмены ў сыстэму комплектаваньня: адбор на курсы ў далейшым будзе рабіцца сэктарамі кадраў оргінстру і культпропу ЦК КП(б)Б са складу раённага і гарадзкога партыйнага актыву, вылучанага ў рэзэрв кіруючых работнікаў.

Курсы трэцяга скліканьня пачалі працаваць з верасьня месяца 1932 г.; агульны контынгент быў вызначан у 300 асоб. Фактычна прыбыло на курсы да 250 асоб.

Мандатнай комісіяй было прынята 227 асоб. Усе слухачы былі разьмеркаваны па наступных аддзяленьнях: оргработнікаў РК КП(б)Б, работнікаў КК РСІ, работнікаў вытворчых партколек-



тываў, сакратароў апорных ячэек, агітмасавых работнікаў, газэтных работнікаў; арганізавана яўрэйская і польская групы оргпартработнікаў.

Праз паўтары месяца пасьля пачатку заняткаў 40 слухачоў курсаў былі адкамандыраваны згодна пастановы Сакратарыяту ЦК КП(б)Б у вышэйшую сельскагаспадарчую комуністычную школу, 8 таварышоў у КІЖ Беларусі.

На сёнешні дзень на 6-месячных курсах займаецца 180 слухачоў, але трэба адзначыць, што курсы райпартактыву за параўнальна кароткі тэрмін свайго існаваньня абрасьлі радам дачэрніх больш кароткатэрміновых курсаў. Так, напрыклад, за апошнія 6 месяцаў праведзены два скліканьні менскіх міжраённых курсаў нізавога партактыву (тэрмін навучаньня—тры месяцы), праведзены месячныя курсы для агітмасавых работнікаў прыгранічных раёнаў, зараз працуюць аднамесячныя курсы вайсковых работнікаў.

Паступова курсы райпартактыву пры ЦК КП(б)Б пачынаюць перарастаць у партыйна-вучэбны гарадок.

Ужо з першага студзеня 1933 г. пры курсах адкрыта аднагадовае аддзяленьне для падрыхтоўкі кіруючых работнікаў КК РСІ.

У студзені-ж будуць арганізаваны аднамесячныя курсы для сакратароў вясковых партячэек Менскага раёну. На працягу студзеня—лютага будуць перападрыхтоўвацца на месячных курсах сакратары комсамольскіх ячэек МТС і саўгасаў, а таксама сакратары ячэек воднага транспорту.

З лютага пачнуць працаваць курсы-конфэрэнцыі завочнікаў сыстэмы Беларускага інстытуту масавага завочнага навучаньня, а таксама курсы рэцэнзэнтаў і консультантаў.

Паводле пляну на 1933 г. мяркуецца арганізаваць аднагадовыя курсы горпартактыву, 6-месячныя курсы пропагандыстаў на 150 асоб і рад двухмесячных курсаў для перападрыхтоўкі работнікаў РК КП(б)Б і ЛКСМБ.

Рэспубліканскі партыйны актыў і актыў кіруючых работнікаў раёну (сакратароў РК КП(б)Б, старшынь РВК і старшынь КК РСІ) мяркуецца перападрыхтоўваць на двухмесячных курсах у Прылуках.

Што-ж даюць 6-месячныя курсы па зьмесьце? Які вопыт накапілі курсы па програмна-мэтодычных пытаньнях?

Вучэбныя пляны пабудаваны паводле прадметнага прынцыпу. На ўсіх аддзяленьнях праходзяць наступныя дысцыпліны: гісторыя партыі (УсеКП(б) і КП(б)Б), партыйнае будаўніцтва, асноўныя пытаньні марксызму-ленінізму, клясавая барацьба ў Польшчы і Заходняй Беларусі. З агульнай колькасьці часу ў 1200 гадзін на гэтыя дысцыпліны адводзіцца да 40 проц., да 15 проц. адводзіцца на экономічны цыкль—палітэкономію, тэорыю савецкай гаспадаркі. Значная ўвага ўдзяляецца вывучэньню пытаньняў арганізацыі буйнай соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, агрозоотэхнікі і мэханізацыі сельскай гаспадаркі; у групе сакратароў вытворчых партколективаў—пытаньням пля-

наваньня (прамфінпляну) і рацыяналізацыі вытворчасьці. Апроч таго, у кожнай групе вылучана да 15 проц. часу на сэмінары па спэцыяльнасьці, ад 100 да 200 гадзін—на вытворчую практыку і ня менш 200 гадзін на агульна-адукацыйныя дысцыпліны (белмова і матэматыка).

Уся програма курсаў партактыву прасякнута гістарызмам у добрым сэнсе гэтага слова: значная ўвага адводзіцца папулярызацыі ўказаньняў, даных т. Сталіным у журнале „Пролетарская революция". Увесь комплекс гістарычных дысцыплін разьлічан на ўсваеньне слухачамі бальшавіцкіх традыцый у барацьбе на два фронты і з прымірэнцтвам на розных этапах за генэральную лінію партыі.

Мэтод навучаньня да 3-га скліканьня быў у пераважнасьці лябораторны. Цяпер унесены значныя зьмены. Па ўсіх асноўных дысцыплінах высокакваліфікаванымі выкладчыкамі чытаюцца агульныя лекцыі, пасьля чаго ідзе прапрацоўка з выкладчыкамі-консультантамі па групах. Вядзецца пэрсанальны ўлік пасьпяховасьці, па кожным заданьні робяцца адзнакі аб якасьць прапрацоўкі, па праходжаньні пэўных аддзелаў програмы праводзяцца політбаі. У выніку якасьці прапрацоўкі матэрыялаў значна палепшылася. На ўсіх іншых кароткатэрміновых курсах програмы пабудаваны ў асноўным паводле комплекснага прынцыпу. На 3-месячных міжраённых курсах уведзены ў якасьці асобных прадметаў матэматыка і белмова. У аснову агульна-політычнага цыклю пакладзена програма курсаў партактыву ЦК УсеКП(б).

У сувязі з тым, што з лютага намечана правядзеньне курсаўконфэрэнцый завочнікаў, Маскоўскі інстытут масавага завочнага навучаньня пры ЦК УсеКП(б) мяркуе пэрыодычна пасылаць на курсы райпартактыву пры ЦК КП(б)Б прадстаўнікоў сваіх катэдр для правядзеньня лекцый па паасобных вузлавых пытаньнях програмы. Па меры разгортваньня работы курсы патрабуюць усё большай колькасьці пастаянных кваліфікаваных работнікаў. Некаторая частка работнікаў ужо замацавана за курсамі, але гэта недастаткова. Неабходна, каб на курсах былі пастаянныя кіраўнікі прадметных комісій па кожнай дысцыпліне. На ўзмацненьне курсаў кваліфікаванымі пэдагогічнымі работнікамі ў бліжэйшы тэрмін культпропу ЦК КП(б)Б трэба будзе зьвярнуць асаблівую ўвагу.

Зараз ідзе будаўніцтва трох 2-павярховых стандартных дамоў пад інтэрнаты курсаў. На 1933 г. намячаецца ахапіць вучобай на працягу году больш 3000 чал. партыйна-комсамольскага актыву, прычым сярэднягадовы контынгент на курсах будзе дасягаць 760 асоб.

Такое разгортваньне справы кароткатэрміновай падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі партыйных кадраў становіцца няўнікнёным у сувязі з тым вялізарнейшым політычным ростам, які зараз назіраецца сярод шырокіх працоўных мас, у сувязі з тымі вялізарнейшымі задачамі, якія стаяць перад партыяй у першым годзе другой пяцігодкі.

Узбраеньне кіруючых партыйных кадраў марксысцка-ленінскай тэорыяй, бальшавіцкай піль-

насьцю і непрымірымасьцю да малейшых адхіленьняў ад лініі партыі, становіцца асабліва неабходным цяпер, калі ў сувязі з пераможным выкананьнем пяцігодкі ў 4 гады супроціўленьне разгромленага, але недабітага, клясавага ворагу абвастраецца і калі паасобныя найменш устойлівыя таварышы трацяць свой твар—пературараюцца ў здраднікаў партыі, у агентаў клясавага ворага.

Зброя марксысцка-ленінскай тэорыі дапаможа шырокім колам актыву выкрыць опортуністаў і здраднікаў і дасьць магчымасьць больш хуткімі тэмпамі разгарнуць політычную, партыйна-масавую і выхаваўчую работу кожнай партыйнай організацыі, узьнімаючы тым самым усю работу КП(б)Б на большую вышыню.

---

*Любін*

## ПАДРЫХТОЎКА ПРОПАГАНДЫСТА ДА ЗАНЯТКАЎ

Уладзімер Ільліч у пісьме да слухачоў школ на востраве Капры асабліва падкрэсьліваў ролю лектароў. Ён пісаў: „у кожнай школе самае важнае—ідэйна-політычны напрамак лекцыі. Чым вызначаецца гэты напрамак? Цалкам і выключна складам лектароў". Гэтыя словы т. Леніна цалкам адносяцца да пропагандыстаў нізавой партыйнай сеткі. Пропагандыст часта зьяўляецца асноўнай крыніцай ведаў, якія перадаюцца слухачам гуртка або школы ў першапачатковай сетцы партасьветы, бо слухачы гэтай сеткі карыстаюцца кнігай яшчэ мала. Да пропагандыстаў прад'яўляюцца вялікія запатрабаваньні. А ад каго шмат патрабуецца, таму неабходна самому шмат ведаць, шмат умець.

Між тым у сучасны момант нельга сказаць, каб ў нас у галіне падбору пропагандыстаў агульнай іх падрыхтоўкі, падрыхтоўкі да паасобных заняткаў усё было добра. Тав. Кагановіч у дакладзе на абласной маскоўскай конфэрэнцыі характарызаваў радам фактаў слабую падрыхтоўку нашых пропагандыстаў. На нарадзе культпропаў пры ЦК УсеКП(б), якая адбылася ў канцы жніўня 1931 г., было ўдзелена шмат увагі пропагандысцкім кадрам. Тав. Постышаў у сваім дакладзе аб чарговых задачах марксыцка - ленінскага выхаваньня падкрэсьліваў, што надзвычай востра стаіць проблема падрыхтоўкі пропагандысцкіх кадраў. Гэтае-ж пытаньне было закранута і т. Стэцкім, які ўказваў, што пропагандысцкія кадры ў нас вельмі слабыя. Аб гэтымжа гаварылі амаль ўсе выступаўшыя дэлегаты, скардзячыся

на недахоп пропагандыстаў і іх слабую падрыхтоўку.

У нас недастатковая колькасьць пропагандыстаў, і якасьць іх часта прымушае жадаць значна большага. Самі мы, таварышы пропагандысты, не заўсёды строга адносімся да сябе, не заўсёды прад'яўляем да сябе дастаткова высокія патрабаваньні. Многія з нас яшчэ думаюць, што пропаганда—справа лёгкая, што ўсякі можа быць пропагандыстам. Зусім пэўныя, выразныя ўказаньні адносна гэтага мы знаходзім у Леніна. У „Пісьме да таварыша аб нашых організацыйных задачах Уладзімер Ільліч пісаў: „Дарэчы наконт пропагандыстаў я. жадаў-бы яшчэ сказаць некалькі слоў супроць звычайнага перапаўненьня гэтай профэсіі маладольнымі людзьмі і прыніжэньня гэтым узроўню пропаганды. У нас часамі ўсякі студэнт без разбору лічыцца пропагандыстам". І далей, у гэтым-жа артыкуле т. Ленін пісаў: „Сапраўды вытрыманых прынцыпова і здольных пропагандыстаў вельмі мала (каб зрабіцца такім, трэба як сьлед павучыцца і набыць вопыт) і такіх людзей трэба спэцыялізаваць, займаць іх цалкам і берагчы ўзмоцнена".

Гэта пісьмо было напісана ў 1902 г., але ня страціла свайго актуальнага значэньня і цяпер.

## АГУЛЬНАЯ ПАДРЫХТОЎКА

Такім чынам, каб стаць пропагандыстам, „трэба як сьлед павучыцца і набыць вопыт". Якой-жа павінна быць падрыхтоўка пропагандыста, якім чынам атрымаць яе і як з дня ў дзень павышаць яе? Вось пытаньне, якое стаіць перад кожным пропагандыстам.

Пропагандыст першапачатковай сеткі партасьветы павінен мець веды ў аб'ёме ня менш саўпартшколы, гэта самы гранічны мінімум. Гэта ня значыць, што таварыш, які ня скончыў саўпартшколы, ня можа быць пропагандыстам. Такі таварыш павінен ужыць усе захады для таго, каб атрымаць гэты мінімум. Дзе-ж яго можна атрымаць? Ёсьць рад кніг, якія пропагандысту неабходна грунтоўна ведаць, якія зьяўляюцца фундамантам для яго пропагандыскай работы. Гэта—у першую чаргу „Пытаньні ленінізму" т. Сталіна. Можна з упэўненасьцю сказаць, што гэта адна з найбольш распаўсюджаных, чытаемых кніг. Усе пропагандысты, за вельмі маленькім выключэньнем, знаёмы з „Пытаньнямі ленінізму". Але мала аднаго знаёмства з гэтай кнігай. Гэтую кнігу трэба вывучаць, да гэтай кнігі трэба кожны раз звярачвацца, паасобныя разьдзелы яе трэба чытаць і перачытваць. Другое абавязковае патрабаваньне—гэта веданьне твораў Леніна. Трэба ўпрост сказаць, што Леніна нашы пропагандысты мала чытаюць.

Цяпер, у зьвязку з пастановай XVII партконфэрэнцыі аб тым, што „асноўнай політычнай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца канчатковая ліквідацыя капіталістычных элементаў і кляс наогул, поўнае зьніштажаньне прычын, якія параджаюць клясавыя розь-

ніцы і эксплёатацыю, асабліваe значэньне набывае марксысцка-ленінскае вучэньне аб клясах, клясавай барацьбе, ленінскае вучэньне аб дзяржаве. Усе гэтыя пытаньні трэба дэталёва прапрацаваць, бо без разуменьня іх нельга ўзьняць партвучобу на вышэйшую ступень, нельга правільна разумець і растлумачыць слухачом карэнныя пытаньні тэй вялізарнай практычнай работы, якая пастаўлена перад партыяй XVII партконфэрэнцыяй і студзеньскім аб'яднаным пленумам ЦК і ЦКК, пропаганда рашэньняў якіх павінна на бліжэйшы пэрыод стаць у цэнтры ўсёй пропагандысцкай работы. Тэорэтычнае абгрунтаваньне усіх гэтых пытаньняў мы знаходзім у творах т. Сталіна і Леніна. Асабліва значэньне для разуменьня рашэньняў XVII партконфэрэнцыі мае твор Леніна „Дзяржава і рэволюцыя“.

Асабліваe значэньне ў сучасны момант набывае веданьне гісторыі УсеКП(б). Усякі пропагандыст абавязан ведаць грунтоўна гісторыю нашай партыі. Пісьмо т. Сталіна „Аб некаторых пытаньнях гісторыі бальшав зу“ абавязвае кожнага члена партыі і ў першую чаргу пропагандыста ўзьняць веды па гісторыі УсеКП(б) на большую тэорэтычную вышыню, для таго, каб не прапусьціць трацкісцкай контрабанды, для таго, каб пабальшавіцку праводзіць генэральную лінію партыі, для таго, каб змагацца з усякімі варожымі генэральнай лініі партыі тэорыямі і тэорыйкамі і з усякімі ўхіламі на практыцы.

Да гэтага часу мы нічога не гаварылі аб творах К. Маркса і Фр. Энгельса. Ці значыць гэта, што іх можна ня ведаць? Зусім не. Такія творы, як „Комуністычны маніфэст“, гістарычныя работы К. Маркса і рад іншых больш лёгкіх твораў кожны пропагандыст павінен ведаць па першакрыніцы.

Такім зьяўляецца мінімум папярэдніх тэорэтычных ведаў, якія неабходны пропагандысту. Як іх набыць? Значная частка пропагандыстаў скончыла саўпартшколу і авладала гэтымі ведамі. Астатнім неабходна організаваць сыстэматычную работу над сабой. У цэлым радзе раёнаў існуюць раённыя курсы, організоўваюцца сэмінары-трохдзеньнікі, або пастаянныя. Але гэтага яўна недастаткова. Пропагандысту неабходна сыстэматычна займацца самастойна. Самым лепшым спосабам зьяўляецца завочнае навучаньне. Шляхам завочнага навучаньня, пад кіраўніцтвам стацыянарнай установы саўпартшколы або Комвузу значна лягчэй і лепш атрымаць пэўны аб'ём ведаў. Многіх таварышоў часта палохае вялікая колькасьць дысцыплін, вялікая програма поўнага курсу, напрыклад, Комвузу. Але няма патрэбы працаваць адразу па ўсім курсе. Завочнае навучаньне дае магчымасьць выбраць паасобны прадмет, або групу прадметаў, дае магчымасьць вучыцца не адрываючыся ад работы, дае магчымасьць скарыстаць усякую вольную мінуту. Часта завочнікі спасылаюцца на загружанасьць работай, на частыя разьезды па кампаніях. Усё гэта верна, але таксама верна і тое, што шмат часу ў нас прападае дарэмна, што скрозь і ўсюды таварышы не займаюцца галоўным чынам таму, што не органі-

завалі свайго часу. Неабходна памятаць словы т. Постышава: „Наш абавязак—колькі-б гэта ні каштавала—перамагчы цяжкасьці, выцякаючыя з перагружанасьці партактыву і наладзіць сыстэматычную вучобу нашага партыйнага актыву ў тых або іншых формах“.

Неабходна зусім ясна ўсвоіць сабе, што гутарка ідзе іменна аб уліку. Не пачытваньне кнігі, не выпадковае чытаньне, а сыстэматычная, упорная, арганізаваная работа, якая вядзецца з дня ў дзень. Пэўны аб'ём тэорэтычных ведаў зьяўляецца першым, асноўным патрабаваньнем да прапагандыста. Гэта першае, але не адзінае. Прапагандыст павінен таксама быць знаёмым і з асноўнымі мэтодамі прапагандысцкай работы.

Прапагандыст абавязкова павінен быць знаёмым з усёй праграмай свайго зьвяна партасьветы і з навучальнымі прыладамі, якія рэкомэндуюцца. Знаёмства з усёй праграмай дае прапагандысту магчымасьць правільна разьмеркаваць матэрыял. Калі прапагандыст ведае, што, напрыклад, пытаньне аб колгасным будаўніцтве ў яго па праграме будзе праходзіцца яшчэ раз, ён можа на даным занятку абмежавацца толькі агульнымі ўказаньнямі, або адным пэўным бокам пытаньня, папярэдзіўшы вучняў, што гэтае пытаньне будзе яшчэ дадаткова разьбірацца. Наадварот, калі да гэтага пытаньня паводле праграмы ў далейшым варочацца ня будуць, неабходна грунтоўна і дакладна прапрацаваць яго на даным занятку. Веданьне ўсёй праграмы дапамагае прапагандысту арганізаваць работу школы або гуртка.

## ПАДРЫХТОЎКА ДА БЯГУЧАГА ЗАНЯТКУ

Якім-бы добра падрыхтаваным ні быў прапагандыст, ён абавязкова павінен рыхтавацца да паасобных заняткаў. Між тым бываюць выпадкі, калі прапагандыст ня ведае, на якую тэму ў яго будзе сёньня занятак, ня ведае дакладна складу сваёй школы або гуртка; вельмі мала ведае аб вытворчым жыцьці прадпрыемства або колгасу, аб асноўных бягучых справах, якімі жывуць і дыхаюць організацыі. Гэта зусім недапушчальная зьява. Прапагандыст, якой-бы высокай ні была яго кваліфікацыя, павінен перад заняткам гуртка падрыхтавацца да работы. Прапагандысту неабходна даведацца па сваёй запісной кніжцы, чаму быў прысьвечан апошні занятак, якія пытаньні асталіся ня высьветленымі, чым асабліва цікавіліся вучні. Потым, на падставе пройдзенага, адпаведна праграмы неабходна распрацаваць плян і орыентовачнае разьмеркаваньне часу наступнага занятку. Кожнае вузлавое пытаньне ў сваю чаргу трэба разьбіць на рад дадатковых пытаньняў.

Але гэтага яшчэ недастаткова. У залежнасьці ад характару прадпрыемства трэба будзе заастрыць увагу на паасобных пытаньнях, блізка зьвязаных з даным прадпрыемствам. Для гэтага трэба загадзя выпісаць

цыфры, якія цікавяць даную аўдыторыю, скласьці табліцу, выразаць асобна тую або іншую дыяграму і т. д. Трэба яшчэ раз уважліва прачытаць даклады і выдзяліць паасобныя месцы для самастойнай работы вучняў, падабраць выступленьні асобых дэлегатаў па галінах прамысловасьці, або дэлегатаў сваёй галіны. Падбор матэрыялаў павінен рабіцца з улікам узроўню вучняў, іх уменьня працаваць самастойна, іх ролі ў вытворчасьці. Апроч падрыхтоўкі матэрыялу неабходна яшчэ наметціць і практычныя мерапрыемствы для вучняў свайго гуртка, узгадніўшы іх з сакратаром ячэйкі. Практычныя мерапрыемствы будуць залежыць ад стану работы прадпрыемства, ад чарговых задач, якія стаяць перад данай парторганізацыяй, напрыклад, барацьба з бракам, барацьба за зьніжэньне сабекошту, выкрыцьцё кулацкіх агентаў, работа па ўмацаваньні пастаяннай брыгады, барацьба за здаровага каня ў калгасе і да т. п.

Падрыхтоўка да кожнага занятку неабходна абавязкова. Прапагандысту рэкомэндуецца мець запісную кніжку, або сшытак. У гэтым сшытку запісваецца намечаны пляи занятку, разьмеркаваньне часу, пералік матэрыялаў, па якіх будзе праводзіцца работа. Гэтыя матэрыялы трэба мець пад рукою. Выпіскі на асобных лістках неабходна раскласьці ў такім парадку, у якім ім прыдзецца карыстацца. Загаловак на кожным лістку напісаць буйным шрыфтам. Калі кіраўнік карыстаецца газэтай, то неабходнае месца трэба абвесьці алоўкам, лепш за ўсё каляровым. Калі гэта кніга, то можна ўкладкай адзначыць тое месца, якое трэба скарыстаць. Укладкай можа служыць вузкая палоска паперы. Самае-ж месца ў кнізе трэба падкрэсьліць. Калі з аднэй кнігі бярэцца некалькі цытат, то вельмі зручна на самой паперцы напісаць адным словам зьмест цытуемай старонкі, напрыклад „клясы". Гэта палягчае работу з кнігай. Калі ўсё гэта загадзя не падрыхтавана, то ў ходзе саміх заняткаў зноў траціцца час на адшуканьне патрэбных для работы месц. Шуканьне матэрыялаў разьбівае ўвагу ў слухачоў, нэрвуе пропагандыста і часта добры матэрыял астаецца не скарыстаным у час заняткаў толькі з прычыны такой, здавалася-б, дробязі. Можна ў сшытку запісаць старонкі кнігі, якія патрэбны для работы. Але ў кожным выпадку ўвесь матэрыял павінен быць загадзя прагледжан, падрыхтован і апрацован.

Для падрыхтоўкі да кожнага занятку лепш за ўсё карыстацца мэтодычнымі распрацоўкамі, якія звычайна выпускаюцца парторганізацыямі. Пропагандысту неабходна разабраць мэтод распрацоўкі, прачытаць указаную ў ёй літаратуру і для вучняў і для кіраўнікоў. Потым, на падставе ўказаньняў мэтод распрацоўкі, скласьці сабе пляи заняткаў у залежнасьці ад тыпу школы, складу яе і месца работы.

Што прадстаўляе сабой гэты плян? Чытаючы разьдзел кнігі, або артыкул, мы бачым, што аўтар разьмяшчае свае мысьлі ў пэўным парадку. Спачатку ён бярэ адно пытаньне і дакладна разьбірае яго, потым другое

і т. д. Такім чынам кожны артыкул, даклад могуць быць падзелены на некалькі галоўных частак. У кожнай частцы будзе пэўная тэма. І вось, калі мы падзелім артыкул, які прапрацоўваецца, і коратка пакажам, аб чым імення гаворыцца ў кожнай частцы, то гэта і будзе плянам артыкулу. Наогул плян павінен паказваць:

1. Колькі частак падзелен артыкул.

2. Якое імення пытаньне разьбіраецца ў кожнай частцы.

3. У якой сувязі паміж сабою знаходзяцца гэтыя паасобныя часткі. Так, напрыклад, прамова т. Сталіна на нарадзе гаспадарнікаў падзелена ім на 6 галоўных частак:

1) рабочая сіла, 2) зарплата рабочых, 3) арганізацыя працы, 4) пытаньне аб вытворча-тэхнічнай інтэлігенцыі рабочай клясы, 5) прызнакі павароту сярод старой вытворча-тэхнічнай інтэлігенцыі, 6) аб гаспадарчым разьліку.

Прачытаўшы гэтыя загалоўкі, мы адразу бачым, якім асноўным пытаньням гаспадарчага будаўніцтва прысьвечана прамова.

Узорамі падзелу матэрыялу на часткі таксама могуць служыць загалоўкі кнігі, загалоўкі да разьдзелаў популярнай брошуры, дакладу і т. д. Адрозьніваюць два віды пляну: плян просты і плян складаны (падрабязны). Калі мы падзелім артыкул толькі на галоўныя часткі, то ў нас атрымаецца просты плян. Напрыклад, разьдзел з кнігі Керженцава і Леонтьева: Ад адбудаваньня зруйнаванага—да пабудовы новага“ (стар. 55—56, выд. 1931 г.) можна падзяліць на тры галоўныя часткі:

1. Капіталістычная гаспадарка пасьля вайны і гаспадарка СССР.

2. Ход адбудаваньня гаспадаркі ў СССР.

3. Пераход ад аднаўленчага пэрыяду да рэконструкцыйнага.

Калі-ж мы да кожнай з гэтых галоўных частак або толькі да некаторых з іх зробім рад падзагалоўкаў, дэталізуючых, растлумачваючых галоўную частку, то ў нас атрымаецца складаны плян. Напрыклад, да гэтага-ж разьдзелу з кнігі Керженцава і Леонтьева:

**1. Капіталістычная гаспадарка пасьля вайны і гаспадарка СССР.**

а) Пазыкі некаторым капіталістычным краінам з боку найбольш багатых з іх.

б) СССР будуе на ўласныя сродкі.

в) Умовы хуткага росту гаспадаркі ў СССР.

**2. Ход адбудаваньня гаспадаркі ў СССР.**

а) Падзеньне вытворчасьці ў гады грамадзянскай вайны.

б) Пералом па скончэньні грамадзянскай вайны.

в) Хуткі рост да 1924 г.

г) Дасягненьне даваеннага ўзроўню з 1926/27 г.

**3. Ад аднаўленчага пэрыяду да рэконструкцыйнага:**

а) Перавышэньне даваеннага ўзроўню к 1927—28 г.

б) Што значыць рэконструкцыя

Значэньне складаньня такога пляну заключаецца ў тым, што мы такім чынам праводзім больш адрозьненьне матэрыялу, што прапрацоўваецца, і тым самым робім больш лёгкай работу для далейшага ўсваеньня і для запісаў.

## ЯК СКЛАДАЦЬ ПЛЯН

Перш за ўсё складаць плян трэба не ў часе чытаньня, а пасьля прачытаньня разьдзелу або артыкулу. Мэтазгодна спачатку толькі прачытаць разьдзел, які прапрацоўваецца, цалкам, а потым ужо дзяліць яго на часткі. У гэтым выпадку плян атрымоўваецца больш правільным і прадуманым.

Што-ж датычыць тэхнікі складаньня пляну, то звычайна яго будуюць у форме пытаньняў або загалоўкамі.

Вытрымліваць пры складаньні пляну адну якую-небудзь сыстэму (толькі пытаньні або толькі загалоўкі) ня трэба. Звычайна ў пляне скарыстоўваюцца абедзьве формы. Больш распаўсюджаная і экономная—загалоўкі, а ня пытаньні.

Ня трэба і ня варта складаць плян да кожнага абзаца артыкулу. Урэшце трэба заўсёды зьвяртаць увагу на якасьць загалоўкаў. Трэба ўважліва сачыць, каб загаловак уключаў у сабе самае асноўнае, істотнае, аб чым гаворыцца ў данай частцы. Напрыклад, замест агульнага загалоўка, які нічога не гаворыць—„Першая супярэчнасьць“ лепшым будзе загаловак: „Супярэчнасьць паміж працай і капіталам“.

## ЗНАЧЭНЬНЕ СКЛАДАНЬНЯ ПЛЯНУ

Сладаньне пляну—вельмі цэнная работа. Адрозьніваючы матэрыял, мы ўстанаўлівалі ўзаемныя суадносіны частак і іх сувязь паміж сабою. Абазначаючы загалоўкамі або пытаньнямі тое, аб чым гаворыцца у кожнай частцы, мы раім рабіць вельмі невялікія запісы да кожнага разьдзелу. Гэтымі запісамі мы значна палягчаем сабе работу па падрыхтоўцы і робім больш экономнымі ўсе астатнія нашы запісы. Каштоўнасьць пляну ў тым, што ён дысцыплінуе мысьль, прывучае нас коратка і ясна формуляваць яе. Вось чаму такое вялікае значэньне мае плян пры падрыхтоўцы пропагандыста да заняткаў.

Другім разьдзелам пляну павінны быць цытаты, тэзісы, конспэкт, інакш кажучы самы зьмест.

Скончыўшы конкрэтызацыю вучэбнага матэрыялу, пропагандыст павінен прыступіць да мэтодычнага яго афармленьня, да падбору наглядных ілюстрацыйных дапаможнікаў, да вызначэньня парадку і пасьлядоўнасьці ў яго скарыстаньні, да наметкі тых мэтодаў і спосабаў, якія павінны быць ужыты ў занятках.

Для большага ажыўленьня заняткаў неабходна надабраць ілюстрацыйны мастацкі матэрыял, асабліва да тэм гістарычнага зьместу. Выбраны ілюстрацыйны матэрыял разьмяшчаецца адпаведна парадку тых пытаньняў якія ім ілюструюцца. Гэта значыць, адзначаецца тое месца ў разьвіцьці заняткаў паводле пляну, у якім будуць скарыстаны тыя ці іншыя ілюстрацыйныя матэрыялы. Тое самае і ў адносінах наглядных

дапаможнікаў Яны падбіраюцца да тых пунктаў і пытаньняў, дзе скарыстаньне іх будзе садзейнічаць лепшаму ўсваеньню (у адпаведных мясцох свайго пляну кіраўнік робіць адзнаку аб тым, што ён тут пакажа такую-та дыяграму, схэму, картку і т. д.). Наглядныя дапаможнікі, намечаныя пропагандыстам для выкарыстаньня ў часе заняткаў, павінны быць падабраны і прыведзены ў такі выгляд, у якім яны будуць дасягаць найбольшай наглядчасьці. Некаторыя наглядныя дапаможнікі магчыма прыдзецца некалькі размножыць з тым, каб яны лепш былі разабраны слухачамі.

Калі па якім-небудзь пытаньні, якое асабліва патрабуе нагляднай перадачы, ня знойдзецца адпаведнага па зьмесьце гатовага дапаможніка, то пропагандысту прыдзецца самаму яго падрыхтаваць, або даць адпаведнае заданьне слухачам. Улічваючы складанасьць падбору і падрыхтаваньня наглядных дапаможнікаў неабходна кожнаму пропагандысту мець у сабе пад рукамі альбомы, або сыстэматызаваныя комплекты гатовых друкаваных наглядных дапаможнікаў. Адабраныя або падрыхтаваныя дапаможнікі пропагандыст складае ў такім парадку, у якім ён будзе карыстацца імі на занятках. Гэта неабходна для таго, каб пропагандыст не капаўся ў часе самых заняткаў і не затрымліваў іх пляновы ход.

У выніку такога афармленьня вучэбнага матэрыялу плян напоўніцца жывым конкрэтным зьместам. Кожны яго пункт будзе мець указаньне ня толькі на асноўны зьмест, але і на ілюстрацыйныя і наглядныя матэрыялы, якія будуць гэты асноўны зьмест падмацоўваць. Калі пропагандыст будзе мець цяпер такі плян з указаньнямі, якімі мэтодамі будзе разьвівацца той ці іншы пункт або падпункт пляну, якія спосабы будуць ужыты для ажыўленьня заняткаў і ў якім месцы яго разьвіцьця, то работа пропагандыста над плянам і вакол пляну можа лічыцца закончанай, а сам плян да гэтага моманту набудзе выгляд, шмат у чым нагадваючы ўзорную мэтодычную распрацоўку. Апроч гэтага часта прыходзіцца карыстацца газэтамі, паасобнымі артыкуламі, або цыфравым матэрыялам. Усё гэта таксама павінна быць загадзя падабрана і падрыхтавана. У дадатак да ўсяго гэтага пропагандыст павінен прадумаць і падрыхтаваць:

1) Форму ўвязкі данай тэмы з папярэдняй.

2) Формулёўкі вывадаў, якія ён запрапануе запісаць слухачам.

3) Апытальнік для заключнай праверкі ўсваеньня данай тэмы.

4) Заданьне слухачом да наступных заняткаў (што прачытаць, якія работы выканаць).

Вось якой у асноўным павінна быць падрыхтоўка да кожнага занятку ў паасобку. Кожны занятак, асноўныя вывады і заўвагі да яго мэтазгодна запісваць.

Якім-бы высокім ні быў тэорэтычны ўзровень пропагандыста, як-бы ні быў багат яго вопыт, пропагандысту неабходна сыстэматычна павышаць сваю кваліфікацыю.

Работа гэта ня можа быць аднолькавай для ўсіх. Яна залежыць ад агульнай падрыхтоўкі пропагандыста, ад пытаньняў,

якія яго больш цікавяць і ад програмы школы або гуртка. Асобам, якія працуюць у прадметным гуртку па палітычнай экономіі, натуральна трэба значна больш увагі зьвярнуць у сваіх самастойных занятках на політэкономію і наогул экономічныя дысцыпліны. Ім трэба сачыць за журналам „Проблемы экономики“, уважліва чытаць артыкулы ў „Правде“ і ў „Большевике“, прысьвечаныя экономічным проблемам, сачыць за водгукамі аб кнігах па гэтых пытаньнях і т. д. Таварыш, які працуе ў прадметным гуртку па гісторыі ЎсеКП(б), у першую чаргу павінен прапрацаваць усе тэмы, аб якіх упамінае т. Сталін у сваім пісьме ў журнале „Пролетарская революция“, а іменна: пытаньні аб перарастаньні буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў социялістычную, бальшавізм на міжнароднай арэне, аб цэнтрызьме і інш.

Апроч работы па паасобных дысцыплінах, або па паасобных пытаньнях тэй ці іншай дысцыпліны, пропагандысты абавязкова павінны сачыць за цэлым радам журналаў.

Якія-ж гэта журналы? У першую чаргу „Большевик“ і „Коммунистическая революция“. У гэтых журналах асьвятляюцца асноўныя пытаньні партыйнага жыцьця, найбольш актуальныя проблемы нашага будаўніцтва, нашага тэорэтычнага фронту. Апрача таго, неабходна сачыць за журналамі: „В помощь партучебе“, „Пропагандист“, „За ленинскую учобу“. У гэтых журналах асьвятляецца мэтодыка, практыка і вопыт работы сеткі партасьветы, даецца даведачны матэрыял. Ня трэба даказваць, якое значэньне мае для пропагандыста абмен вопытам. Зусім ясна, што неабходна чытаць штодзенна газэту.

Некаторыя, прачытаўшы газэту, сунуць яе абы куды, а калі прыходзіцца рыхтавацца да заняткаў, капаюцца ва ўсіх газэтах. Але можна гэтае-ж чытаньне газэты організаваць па іншаму: тут-жа, чытаючы, адзначаць алоўкам патрэбныя даныя, артыкул, заметку, лічбы. Газэту трэба захаваць (калі вы наогул газэты не захоўваеце), а ў запісной кніжцы адзначыць намечаны да скарыстаньня матэрыял. Вось і выходзіць, што адначасна прачытана газэта і адабраны матэрыял для гуртка або школы. Тое-ж самае рэкомэндуецца і пры чытаньні і пры прапрацоўцы ўсякіх кніг.

У рэзультаце выпрацоўваецца сталая звычка пры кожнай рабоце адразу-ж адбіраць і патрэбны матэрыял для пропагандысцкай работы.

Ва ўсёй падрыхтоўцы, таварышы пропагандысты, нам неабходна захоўваць ленінскі стыль у рабоце. Тав. Сталін піша: „Учым характарныя рысы гэтага стылю? Якія яго асаблівасьці? Гэтых асаблівасьцяй дзьве: рускі рэволюцыйны размах і амэрыканская дзелавітасьць. Стыль ленінізму заключаецца ў злучэньні гэтых дзьвюх асаблівасьцяй у партыйнай і дзяржаўнай рабоце“. Нам, таварышы, неабходна быць ленінцамі і ў організацыі нашай агульнай падрыхтоўкі, і ў падрыхтоўцы да паасобных заняткаў.

Усё-ж кожны пропагандыст павінен дабівацца праз райком

складаньня спрыяючых умоў для сваёй падрыхтоўкі. Практычныя мерапрыемствы па палегчаньні падрыхтоўкі пропагандыстаў павінны прайсьці па лініі: а) як мага большай разгрузкі пропагандыста ад усякіх іншых нагрузак; б) стварэньня сэмінару пропагандыста; в) організацыі інструкцыйных дакладаў па вузлавых пытаньнях програм і мэтодычных пытаньнях; г) забясьпечаньня пропагандыста вучэбнымі дапаможнікамі; д) складаньня ўмоў у партгабінэце для падрыхтоўкі пропагандыста.

*В. Н. Жукаў*

# ЗА УДАРНУЮ ОРГАНІЗАЦЫЮ СЛУХАНЬНЯ РАДЫЁЛЕКЦЫЙ ПАРТВУЧОБЫ

Ня трэба даказваць кожнаму завочніку і актыўнаму радыёслухачу аб тым, якую карысьць атрымлівае завочнік ад сыстэматычна праслуханых радыёлекцый. Радыёлекцыя ў завочнай партасьвеце адыгрывае першарадную ролю. Яна замяняе жывое выступленьне выкладчыка перад аўдыторыяй, якое праводзіцца ў стацыянарных навучальных установах. Радыёлекцыя знаёміць завочніка і радыёслухача з асноўнымі момантамі тэмы, якую завочнік прапрацоўвае, дае напрамак і орыентоўку ў рабоце завочніка і радыёслухача, які актыўна і сыстэматычна слухае радыёлекцыі партвучобы.

Радыёвяшчаньне ў сыстэме завочнага навучаньня прыстасоўваецца конкрэтна да ўмоў і работы завочнікаў. Як правіла, радыёлекцыі перадаюцца перад пачаткам распрацоўкі тэм і заданьняў завочнікам з тым, каб дапамагчы разабрацца ў матэрыяле. Калі завочнік сыстэматычна працуе і рэгулярна прадстаўляе пісьмовыя работы ў адпаведны завочны сэктар, тады ён здолее праслухоўваць усе вызначаныя для яго формы вучобы радыёлекцыі. Сваячасовасьць распрацоўкі тэм адыгрывае тут вялізарную ролю. Радыёлекцыі адыгрываюць ролю ўступных конфэрэнцый, калі параўнаць гэта са стацыянарнай вучобай.

Радыёлекцыя дапамагае разабрацца ў матэрыялах, якія часта для завочніка зьяўляюцца даволі цяжкімі. Некаторыя завочнікі і радыёслухачы партасьветы лічаць, што ад іх патрабуецца слухаць кожную лекцыю штодзенна. Такое разуменьне зьяўляецца зусім няправільным. Кожны месяц Інстытутам масавага завочнага навучаньня партактыву пры ЦК КП(б)Б перадаецца 25 радыёлекцый вучэбных і эпізодычных. Актыўны завочнік можа праслухаць толькі вызначаную для яго колькасьць радыёлекцый па яго форме завочнай партасьветы. Для кожнай формы—Комвузу, завочнай СПШ і радыёкурсаў партактыву—вызначаецца ня больш як 3—4 лекцыі у месяц. Гэту мінімальную колькасьць вучэбных радыёлекцый можна праслухаць кожнаму завочніку бяз усялякіх цяжкасьцяй. Гэтаму ні ў якім разе ня могуць перашкодзіць розныя „об'ектыўныя" ўмовы, на якія даволі часта спасылаюцца некаторыя нашы завочнікі: службовыя абавязкі, аддалёнасьць аўдыторыі, няведаньне раскладу і т. д. Трэба толькі лічыць простым сваім абавязкам праслухоўваць лекцыі як неадлучную частку завочнай работы над матэрыяламі. Апроч вучэбных радыёлекцый, вызначаных для завочніка, перадаюцца радыёлекцыі і эпізодычнага характару. Гэтыя радыёлекцыі разьлічаны на шырокі партыйна-комсамольскі актыў, рабочых і колгасьнікаў, у тым ліку і для завочнікаў усіх форм і відаў завоч-

нага навучаньня. Пажадана, каб эпізодычныя радыёлекцыі слухалі ўсе завочнікі. Тут асьвятляюцца ўсе важнейшыя рашэньні партыі і ўраду. Гэтыя лекцыі падвышаюць палітычны кругагляд завочніка, мобілізуюць яго на бальшавіцкую барацьбу за генэральную лінію партыі, за арганізацыйнагаспадарчае ўмацаваньне колгасаў, за падвышэньне продукцыйнасьці працы, за выкананьне гаспадарчых плянаў мобілізуюць яго на рашучы адпор клясаваму ворагу і яго агентуры.

Некалькі слоў аб тым, як трэба слухаць радыёлекцыі. Іншы завочнік і радыёслухач лічыць дастатковым, калі ён прыдзе ў радыёаўдыторыю, надзене навушнікі і праслухае да канца ўсю лекцыю. Мы лічым такое слуханьне зусім недастатковым і нездавальняючым. Каб праслухаць радыёлекцыю і зразумець яе ад пачатку да канца, а таксама ўсвоіць асноўныя палажэньні, высунутыя ў гэтай радыёлекцыі, трэба ня толькі праслухаць лекцыю, але і прапрацаваць яе.

Ужо дасьледавана, што слуханьне радыёлекцыі без адпаведнага запісу і прапрацоўкі ніякай карысьці завочніку не дае. Кожны завочнік і радыёслухач павінен усвоіць правіла ня толькі слухаць радыёлекцыю але і прапрацоўваць яе, каб атрымаць ад гэтага максымальную карысьць для прапрацоўкі заданьня па тэй ці іншай тэме. Для гэтага ён павінен перад пачаткам слуханьня радыёлекцыі прыгатаваць сабе сшытак, блёк-нот ці кавалак паперы, узяць аловак і ў часе слуханьня радыёлекцыі ад пачатку і да канца рабіць адпаведныя запісы тых месц або цытат з лекцыі, якія зьяўляюцца ўстаноўчымі ці асноўнымі ў матэрыяле, або тых, якія незразумелы для завочніка і радыёслухача з тым, каб пасьля праслуханьня лекцыі праз консультацыйны пункт атрымаць адпаведнае растлумачэньне. Калі-ж консультант ёсьць тут, у радыёаўдыторыі, то трэба звярачвацца зараз-жа да яго.

Цяпер мы спынімся на мэтодах арганізацыі радыёслуханьня і выкарыстаньня вучэбных радыёаўдыторый. Адсутнасьць адпаведнай работы па арганізацыі радыёслуханьня ў радзе раёнаў прывяла да таго, што вялікая колькасьць вучэбных радыёаўдыторый у сучасны момант не працуе за адсутнасьцю завочнікаў і радыёслухачоў у гэтых радыёаўдыторыях. Тут бязумоўна ёсьць рад выпадкаў тэхнічнай неналаджанасьці гэтых радыёаўдыторый, адсутнасьці электражыўленьня тэхнічнага нагляду і т. д. Але асноўнае ня ў гэтым. Становішча, у якім знаходзіцца сетка вучэбных радыёаўдыторый, з прычыны адсутнасьці завочнікаў і радыёслухачоў, зьяўляецца зусім недапушчальным.

На райпарторганізатараў, на загадчыкаў вучэбных радыёаўдыторый, на райкомпартыі і асабліва на загадчыка Культпропу райкому ўскладаецца баявая і неадкладная задача: трэба дабіцца карэннага пералому ў сэнсе арганізацыі радыёслуханьня партыйнай вучобы. Паводле пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б, раённыя комітэты партыі, парткомы заводзкіх партыйных арганізацый і ячэйкі КП(б)Б нясуць адказнасьць за сапраўдную работу вучэбных радыёаўдыторый за наладжваньне сыстэматычнага ра-

дыёслуханьня лекцый партвучобы ня толькі завочнікаў, але і шырокага партыйна-комсамольскага актыву, беспартыйных мас рабочых і колгасьнікаў.

У радзе раёнаў да выкананьня гэтай важнейшай дырэктывы партыі па завочным навучаньні яшчэ ўсутыч не падыйшлі. Раёны, якія прыступілі да рэалізацыі рашэньняў партыі і па баявому паставілі задачу разгортваньня масавага завочнага партнавучаньня, маюць надзвычай вялікія посьпехі.

Да гэтых раёнаў адносяцца: Полацкі, Горацкі, Быхаўскі і Заслаўскі раёны. У гэтых раёнах праводзіцца вялікая работа па організацыі радыёслуханьня. Пляны будаўніцтва вучэбных радыёаўдыторый даўно выкананы. У кожнай радыёаўдыторыі выдзелены загадчык-організатар, які адказвае за штодзеннае наладжваньне слуханьня партвучобы. Гэтыя загадчыкі ў тэхнічным напрамку падрыхтаваны праз скарочаныя 2—3-дзённыя курсы. Яны ведаюць, як абыходзіцца з прыёмнікам. Дзякуючы гэтаму максымальна зьніжана псаваньне прыёмнікаў і апаратуры наогул. У паказаных вышэй раёнах наладжана тэхнічнае абслугоўваньне радыёаўдыторый з боку РОЗ і радыёвузлоў, праз спэцыяльных радыётэхнікаў і радыёманцёраў. Загадчыкі вучэбных радыёаўдыторый аплачваюцца адпаведнымі організацыямі і вызвалены ад усіх іншых партнагрузак, а загадваньне радыёаўдыторыяй зьяўляецца асноўнай партнагрузкай. Таварышы, якія пастаўлены на работу ў радыёаўдыторыі, павінны памятаць, што яны выконваюць баявую і адказную задачу партыі па марксысцка-ленінскім выхаваньні партыйна-комсамольскага актыву, беспартыйных рабочых, колгасьнікаў і працоўных сялян-аднаасобнікаў.

У гэтых-жа раёнах і некаторых іншых, як, напрыклад, у Аршанскім, Дзяржынскім, Расьнянскім вылучаны па аднэй-дзьвёх апорныя радыёаўдыторыі. Тут сконцэнтравана сур'ёзная організацыйная работа Культпропу райкому партыі, райпарторганізатара і пропагандысцкіх кадраў. Бясспрэчна, такія апорныя радыёаўдыторыі павінны мець усе раёны. У гэтых апорных радыёаўдыторыях павінен абагульняцца вопыт працы па організацыі радыёслуханьня і консультацыі завочнікаў. Трэба навучыць завочнікаў і радыёслухачоў правільна слухаць радыёперадачы, як гэта мы падкрэсьлівалі раней. Трэба організацыйна паставіць работу так, каб завочнік ведаў, калі, у якія гадзіны, якая лекцыя і па якім прадмеце будзе перадавацца па радыё. Трэба наладзіць сувязь з завочнікамі праз спэцыяльныя паведамленьні, праз раённы друк, па тэлефоне і т. д.; набыць вопыт і ўстанавіць мэтоды гэтай сувязі з завочнікамі і радыёслухачамі і пашырыць яго на ўсе аўдыторыі і пункты ў раёне, а вопыт раёну—на ўсю тэрыторыю і сетку радыёаўдыторый у БССР.

К пачатку 1933 г. мы будзем мець каля 700 радыёаўдыторый на тэрыторыі Беларусі. Сеткай вучэбных радыёаўдыторый ахоплены ўсе раёны, сельсаветы і ў большасьці дамы соцкультуры, саўгасы, МТС і буйнейшыя колгасы. У гарадох буйнейшыя прадпрыемствы, клюбы, партгабінэты

і т. д. У некаторых раёнах ёсьць дзесяткі вельмі добра абсталяваных радыёаўдыторый, але няма штодзеннага клопату з боку паасобных райкомаў, парткомаў і ячэек КП(б)Б і пастаўленых для гэтай работы работнікаў аб сыстэматычнай іх рабоце, аб тэхнічнай спраўнасьці і арганізацыі радыёслуханьня. Трэба памятаць, што для кожнага комуніста, комсамольца, актывіста-рабочага, колгасьніка, брыгадзіра, настаўніка, агранома, вэт-і мэдработніка арганізаванае радыёслуханьне павінна зрабіцца патрэбай і абавязкам таксама, як мы лічым для сябе патрэбай і абавязкам выпісваць і чытаць газэты, купляць і чытаць кніжкі, наведваць кіно, тэатры і т. д.

Трэба спадзявацца, што гэтыя нашы ўказаньні будуць выкананы ўсёй партыйнай, комсамольскай грамадзкасьцю, беспартыйнымі рабочымі і колгасьнікамі.

# ТРЫБУНА ПРАПАГАНДЫСТА

*В. Ж.*

## ПАРТВУЧОБА Ў СЛУЦКІМ РАЕНЕ

У летні час партыйная асьвета была зусім спынена, за выключэньнем некаторых ячэек, дзе праводзілася неплянавая і непраграмная прапрацоўка некаторых рашэньняў партыі на агульных партыйна-комсамольскіх адкрытых сходах (саўгас Іванъ, Серадняковўская ячэйка, Кастрычніцкая і інш.). Як правіла, у парадку школьнай работы пастановы партыі і ўраду па важнейшых пытаньнях соцыялістычнага будаўніцтва не прапрацоўваліся. Дакладнага ўліку ахопу партыйнай вучобай членаў, кандыдатаў партыі, комсамольскага актыву, беспартыйных рабочых і колгасьнікаў у зімовы пэрыод 31—32 г. ня было. Паводле падагуленых вынікаў, за асеньня-зімовы час было ахоплена партыйнай вучобай: гарадзкой арганізацыяй—30 проц., вясковай—45 проц. Гэта зафіксавана ў пастанове бюро РК ад 5 кастрычніка 32 году пры разглядзе новай партыйнай сеткі на 1932—33 г. Спэцыяльнага і глыбокага вывучэньня арганізацыі і якаснай пастаноўкі марксысцка-ленінскага выхаваньня райком не праводзіў, дзякуючы чаму пры прапрацоўцы партыйнай сеткі на бягучы год ня былі ўлічаны недахопы ў арганізацыі партыйнай вучобы за мінулы год. Некаторыя ячэйкі на працягу ўсяго году нават і не пачыналі праводзіць партыйнай вучобы (ячэйка сельгас, майстэрні, млыны, МТС, Сарагоўская, Раговіцкая і інш.).

Якасьць выкладаньня не правяралася, мэтодычнага інструктажу прапагандыстаў у працягу ўсяго 1932 году ня было, у той час як узровень тэорэтычнай і мэтодычнай падрыхтаванасьці прапагандысцкіх кадраў, асабліва ў вясковых ячэйках—вельмі нізкія. Нават скарочаных курсаў-нарад з прапагандыстамі ня было праведзена. Для гарадзкіх школ патрабавалася каля 50 прапагандыстаў: амаль для кожнай ячэйкі намечаны, згодна пастановы бюро РК, 2 школы (першапачатковая СПШ і кандыдацкая), а ўсяго гарадзкіх ячэек налічваецца 26. У наяўнасьці-ж, паводле падлікаў Культпропу РК, гарадзкіх прапагандыстаў ёсьць толькі 13 чал.

Для вясковых школ прапагандысты зусім ня выдзелены і ня ўлічаны. Ёсьць толькі некаторыя анкетныя зьвесткі. Склад прапагандыстаў наступны: з агульнай колькасьці прапагандыстаў ёсьць вялікая колькасьць вясковых настаўнікаў ШСМ, частка з іх кандыдаты партыі, комсамольцы. Значная колькасьць прапагандыстаў складаецца з сакратароў ячэек, кіраўнікоў саўгасаў і ўстаноў, якія ня маюць выстарчальнай тэорэтычнай і мэтодычнай падрыхтоўкі для выкладаньня ў школах партыйнай асьветы. Усе гэтыя кадры Культпропам РК дакладна ня вывучаны і не праверany.

Культпроп РК ня ўлічыў урокаў мінулага году і мэханічна падышоў да стварэньня партыйнай сеткі ў гэтым годзе. Пры складаньні сеткі ня былі ўлічаны конкрэтныя магчымасьці організацыі школ. Ня вывучаны моманты дыфэрэнцыяцыі партыйнай вучобы па ўзросту і падрыхтаванасьці паасобных комуністаў, комсамольцаў і беспартыйных. У абсолютнай большасьці ячэек меркавалася стварыць 2 школы (першапачатковая СПШ і кандыдацкая), у той час, як у радзе ячэек ёсьць па 3—5 членаў і кандыдатаў партыі. Ясна, што пры такім становішчы нельга было стварыць нормальную школу, якая-б працавала з поўнай нагрузкай і мела-б добрага прапагандыста. А між тым у Слуцку ёсьць усе магчымасьці організаваць школы партыйнай асьветы паводле тэрыторыяльнага і вытворчага прынцыпу, аб'яднаўшы ў школы партыйнай асьветы некалькі ячэек з нязначнай колькасьцю членаў і кандыдатаў партыі.

Па сетцы намечана організаваць у горадзе вячэрні Комвуз на 25 чал. раённага партактыву і стацыянарную 2-гадовую школу СПШ. Вячэрні комвуз не організован, стацыянарная саўпартшкола організавана з ахопам 40 чал., распачала заняткі 13/XI 32 г. Большасьць ячэек пры абгаварэньні комплектаваньня партыйнай сеткі не вырашалі конкрэтна пытаньня аб тым, дзе і якой формай будзе ахоплен кожны паасобны член партыі, кандыдат і комсамолец. Некаторыя ячэйкі, пры пастаноўцы дакладаў аб партыйнай вучобе, даклады прымалі да ведама (ячэйка сельгасмайстэрні, Іваньская ячэйка, Сераднякоўская і інш.). Ня ўсе ячэйкі ставілі пытаньне аб партыйнай вучобе на сваё абгаварэньне (Кастрычніцкая ячэйка), не даводзячы гэтым самым пытаньня партыйнай вучобы да кожнага комуніста, комсамольца, беспартыйнага рабочага і колгасьніка.

Пры прапрацоўцы тэорэтычных пытаньняў невыстарчальна ўвязваецца тэорыя з практыкай соцыялістычнага будаўніцтва. Некаторыя ячэйкі ўвязаньне тэорыі з практыкай разумеюць так, што па сканчэньні заняткаў у школе зараз-жа трэба праводзіць пэўную гаспадарча-палітычную кампанію, не разумеючы таго, што ўвязваньне тэорыі з практыкай павінна выражацца ў штодзеннай рашучай барацьбе школы за організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў, супроць клясавага ворага і шкодніка соцыялістычнага будаўніцтва, у барацьбе з правым ухілам як галоўнай небясьпекай на даным этапе і „левымі“ загібамі, што на занятках школы павінен тэорэтычна асьвятляцца





вопыт барацьбы ячэйкі з кулацкімі элемэнтамі вёскі і іх агентурай супроць гаспадарча-палітычных мерапрыемстваў партыі. Слухачы павінны падрыхтоўвацца і мобілізавацца на далейшую рашучую штодзенную барацьбу за генэральную лінію партыі.

На 28/XI 1932 г. партыйнай вучобай ахоплена: з агульнай колькасьці 513 слухачоў членаў КП(б)Б -172, кандыдатаў--79, комсамольцаў—83, беспартыйных—160, завочнікаў СПШ—32, завочнікаў Комвузу—28, па кандыдацкай школе—405 чал.

Зьвестак аб ахопе партыйнай вучобай на паасобных відах школ няма. Пры складаньні сеткі ня ўлічаны мерапрыемствы па ахопе партыйнай вучобай паасобных комуністаў, кандыдатаў, комсамольцаў, якія па роду сваёй работы ня маюць магчымасьці працаваць у школах. Культпроп РК ня мае ніякіх зьвестак аб колькасьці такіх адзінак.

Завочнае навучаньне таксама ня ўлічана пры складаньні партыйнай сеткі. Формальна завочным навучаньнем ахоплена па Комвузу 28 чал., па завочнай СПШ—32 чал. і комсамольскаму унівэрсытэту—12 чал. З боку Культпропу адсутнічала опэратыўнае кіраўніцтва, дзякуючы чаму з усяго складу завочнікаў, на сёнешні дзень, актыўна і сыстэматычна працуючых налічваецца ня больш 25 проц. Завочнікі ня маюць магчымасьці атрымліваць консультацыю ў процэсе прапрацоўкі заданьняў. Консультацыйныя пункты пастановай бюро РК ад 11/IX гэтага году вызначаны, але Культпроп не арганізаваў работы. Згодна пастановы ЦК УсеКП(б) ад 7 жніўня 32 г. пры кожным РК павінен быць вылучан спэцыяльны райпарторганізатар па завочным навучаньні, але райком дагэтуль яго ня вылучыў. У радыёаўдыторыях не організуецца слуханьне матэрыялаў па партасьвеце як для завочнікаў, так і для шырокага партыйна-комсамольскага актыву рабочых і колгасьнікаў. Амаль усе радыёаўдыторыі па тэхнічных прычынах не працуюць (адсутнасьць электражыўленьня, тэхнічныя няспраўнасьці апаратуры і інш.). Загадчык РОЗ т. Іванчук і загадчык радыёвузла, ня гледзячы на рад пастаноў бюро РК, не забясьпечвае тэхнічным абслугоўваньнем вучэбныя радыёаўдыторыі.

З намечаных па пляне будаўніцтва новых радыёаўдыторый дагэтуль ні адна не пабудавана. Не заведзен улік завочнікаў, не вядзецца з імі штодзенная сыстэматычная работы. Ня створаны нормальныя ўмовы для заняткаў завочнікаў (не прадастаўляюцца тры дадатковыя выходныя дні).

*В. Ж.*

## ПОЛАЦКІ РАЁН СТАНОВІЦЦА Ў ПЕРШЫЯ РАДЫ ПА ОРГАНІЗАЦЫІ ЗАВОЧНАГА НАВУЧАНЬНЯ

Полацкі раён мае каля 320 чал. завочнікаў усіх форм партыйнай асьветы, што складае звыш 25 проц. да ліку ўсёй парторганізацыі ў раёне. Да кастрычніка гэтага году вельмі нізкі процант завочнікаў актыўна працавалі і рэгулярна прадстаўлялі работы (каля 20—30 проц.). Цяпер, у сувязі з намечанымі райкомам партыі мерапрыемствамі, гэты процант падвоіўся.

Праз адну-дзьве дэкады, а то і часьцей, райком партыі правярае работу райпарторганізатара па завочным навучаньні.

Райком заслухоўвае паасобныя справаздачныя даклады парткомаў і паасобных ячэек КП(б)Б, дзе ёсьць завочнікі. Наладжана організацыйна-опэратыўнае кіраўніцтва завочнікамі праз райпарторганізатараў. Завочнікі прымацаваны да адпаведных радыёаўдыторый, наладжана паведамленьне і сувязь з завочнікамі праз раённы друк, асобныя дописы, тэлефон і т. д. У кожнай аўдыторыі вызначан загадчык-организатар па радыёслуханьні, які адказвае за організацыю слуханьня. Палавіна загадчыкаў радыёаўдыторый з ліку 22-х аплачваецца ў разьмеры 30—40 руб. у месяц. Наладжана тэхнічнае абслугоўваньне вучэбных радыёаўдыторый праз спэцыяльна вылучанага радыётэхніка т. Міхайлава, які сапраўды па-баявому паставіў работу. 6 радыёаўдыторый маюць свае ўласныя зарадныя шчыты для акумулятарнага электражыўленьня,—прычым у большасьці ў саўгасах („Бонань“, „Труды“, „Дрэтунь“, МТС і інш.). У бліжэйшы час будзе яшчэ больш павялічана колькасьць зарадных шчытоў для радыёаўдыторый.

*Бужон*

## ЯК Я ПРАВОДЖУ ЗАНЯТКІ[1])

Мы маем слухачоў школы 27 чалавек, з іх членаў КП(б)Б—5 чал. Кандыдатаў, прынятых ячэйкай—4 чал., комсамольцаў—5, беспартыйных—13 чал. Мужчын—18, жанчын—9. Ударнікаў, правераных і маючых ударныя кніжкі атрымаўшых прэмію—15 чал.

Мы пачалі праводзіць заняткі 15 верасьня—на 15 дзён раней устаноўленага РК КП(б)Б тэрміну.

Да гэтага часу прапрацаваны наступныя тэмы:

[1]) Комуна „Ленінская Беларусь“ Жыткавіцкага раёну, яч. КП(б)Б. Кіраўнік кандыдацкай школы Бужон Л. Ф.

1. Пастанова колегіі НКЗБ і праўленьня Колгасцэнтру БССР аб разьмеркаваньні даходаў і ўраджаю.

2. Аб колгасным гандлі і савецкім гандлі.

3. XVII партконфэрэнцыя аб 2-й пяцігодцы і вынікі першай пяцігодкі.

4. Пастанова аб загатоўках мяса, збожжа, бульбы і іншых загатоўках.

5. Соцыялістычная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі.

6. 6 гістарычных умоў т. Сталіна.

7. Нацпытаньне.

8. Комуністычная партыя—перадавы атрад рабочай клясы.

9. Барацьба двух сыстэм.

10. Праз дыктатуру пролетарыяту да комунізму; соцыялізм і комунізм.

11. За што і з кім змагалася партыя да Кастрычніцкай рэволюцыі.

12. Соцыялістычная індустрыялізацыя—асноўны вагар соцыялістычнага будаўніцтва.

13. Організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў.

14. Сьнежаньскі пленум ЦК КП(б)Б і пленум РК КП(б)Б.

15. Даклад т. Гікало на актыве менскай парторганізацыі.

16. Матэматыка—4 лекцыі.

17. Белмова—5 лекцый-заняткаў.

Як мы праводзілі заняткі і нашы мэтоды за гэты час? Мы розна прабавалі: спачатку чыталі матэрыял і я пытаўся ў слухачоў, якія пытаньні для іх зьяўляюцца няяснымі, а калі няяснасьцяй ня было, то я сам ставіў пытаньні і такім чынам распрацоўваўся матэрыял. Праводзілі такі мэтод: давалі матэрыял для падрыхтоўкі да дакладу па чарзе, то аднаму, то другому, бо нехапала падручнікаў. Зараз мы праводзім заняткі так: чытаецца лекцыя—уступнае слова мінут 20—30 па ўсёй тэме і потым матэрыял прапрацоўваецца самастойна індывідуальна тут-жа ў школе і дома. Тыя слухачы, якія ня могуць самі добра чытаць,—а іх налічваецца 15 чалавек,—прапрацоўваюць матэрыял па-брыгадна; брыгада з 3—4 чалавек. Пасьля прапрацоўкі робім заключную конфэрэнцыю і пасьля конфэрэнцыі праводзім палітбой. Палітбаёў правялі два. Апошні мэтод даволі добра прывіваецца і дае добрыя вынікі. Дрэнна толькі таму, хто ня хоча над сабой працаваць, а ў нас такіх слухачоў 3 чал., якія на занятках спалі. Цяпер і гэтыя ўзяліся за вучобу.

Што практычнага зрабіла школа?

1. На 29/XII—32 г. усе віды загатовак закончылі. Лесазагатоўкі і вывазка таксама выкананы. Мобілізацыю сродкаў правялі на 100 проц. як абавязковыя плацяжы, так і дабравольныя.

2. Ліквідавалі абязьлічку па догляду коняй і маем даволі добрыя вынікі.

3. Ліквідавалі абязьлічку на МТФ і СТФ. Каровы, цяляты, сьвіньні і парасяты маюць даволі добры выгляд. На МТФ за 1932 г. ні адно цялё ня пала. Унутраны распарадак на МТФ выконваецца з чэсьцю.

Школай організован сельскагаспадарчы гурток, які ўжо пачаў працаваць.

У адносінах падняцьця ўраджайнасьці мы зрабілі наступнае: прывезьлі мінэральнае ўгнаеньне, загатовілі і скарыстоўваем 50 тон торфу на подсьціл МТФ. Загатовілі і скарыстоўваем 10 тон лісьця і розныя адкіды; загатоўлена і сабрана 1 тона попелу, узялі на сябе абавязак сабраць яшчэ 3 тоны.

За час функцыянаваньня нашай школы, г. зн. з 15/IX—32 г. перадзен 1 чал. у члены КП(б)Б, 5 слухачоў—лепшых ударнікаў—прынялі ў кандыдаты КП(б)Б, з іх адзін пайшоў у Чырвоную армію. Цяпер 2 чалавекі падалі заявы, якія ячэйка не разглядала але гэтыя таварышы да работы прыцягнуты.

---

# Блёк-нот
## пропагандыста

## ЦЫФРАВЫЯ ДАНЫЯ АБ ВЫНІКАХ ПЕРШАЙ ПЯЦІГОДКІ Ў ГАЛІНЕ ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ, СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ І КУЛЬТУРНАГА БУДАЎНІЦТВА

### ЦЯЖКАЯ ПРАМЫСЛОВАСЬЦЬ

#### 1. Мэталюргія

Уведзена за пяцігодку ў строй новых і рэконструіруемых:

40 домнаў, з іх 17 новых магутных.

66 мартэнаўскіх печаў, з іх 45 новых.

23 пракатных станы, з іх 11 новых.

Выплаўка чыгуну складае 190 проц. у параўнаньні з 1928 г., пракат мэталю—145 проц., выпрацоўка якаснай сталі вырасла ў сем разоў.

У 1933 г. у эксплёатацыю ўступаюць: 15 домнаў, 51 мартэнаўская печ, 15 электрапечаў, 4 блюмінгі, 15 пракатных станаў і 4 трубапракатных станы.

#### 2. Апалавая прамысловасьць

а) Плян па вугалі выканан на 87,5 проц. Капітальныя ўкладаньні ў вугальную прамысловасьць складаюць 1800 млн. руб., супроць 1250 млн. па пляну. Уступіла ў строй 150 новых шахт у 63 млн. тон магутнасьці.

Работы мэханізаваны на 72 проц.

б) Плян здабычы нафты выканан на 104,7 проц., плян пераапрацоўкі нафтапродуктаў выканан на 105,3 проц. Здабыча нафты мэханізавана на 100 проц.

в) Здабыча торфу вырасла на 109 проц. Мэханізаваная здабыча торфу складае 64 проц. супроць 15 проц. у 1928 годзе і 30 проц. па пляну.

#### 3. Электрыфікацыя

Выпрацоўка электраэнэргіі ў 1932 г. складае 13,5 млрд. клвт гадзін супроць 5 млрд. клвт. гадзін у 1928 годзе і 2 млрд. клвт. гадзін у дарэволюцыйнай Расіі. Доля раённых станцый у выпрацоўцы электраэнэргіі ўзьнялася з 35 проц. да 58 проц.

## ХІМІЧНАЯ ПРАМЫСЛОВАСЬЦЬ

Укладзена 1480 млн. руб. супроць 1100 млн. руб. па пляну. Уведзена ў эксплёатацыю 58 буйнейшых заводаў. Організаваны азотная, супэрфосфатная, калійная вытворчасьці, выпрацоўка сынтэтычнага каучуку, штучнага валакна, плястычных мас.

Створаны нанова: трактарабудаўніцтва, аўтомобільная і авіяцыйная прамысловасьці, вытворчасьць складаных сельскагаспадарчых машын, магутных паравозаў і вагонаў, буйных турбін і генэратараў, выраб абсталяваньня для чорнай мэталюргіі і апалавай прамысловасьці.

### Машынабудаўніцтва

Усё машынабудаўніцтва вырасла ў параўнаньні з 1927—28 г. у 4,5 разы (з перавышэньнем намёгак апошняга году пяцігодкі на 54 проц.), а ў параўнаньні з даваенным узроўнем у 10 разоў.

### Транспорт

Перавозкі па чыгунках склалі 791 млрд. тона-кілёмэтраў, перавысіўшы плян на 1,5 проц. Укладаньні дасягнулі 6700 млн. руб. супроць 5859 млн. руб. па пляну.

## ЛЁГКАЯ ПРАМЫСЛОВАСЬЦЬ

Валавая продукцыя лёгкай прамысловасьці ў 1932 г. складае ў цэнах 1926 г.—16,3 млрд. руб. супроць 8,7 млрд. руб. у 1928 г. (павялічэньне на 87 проц.) і 5,9 млрд. руб. у 1913 г. (павялічэньне амаль у тры разы). Плян выканан на 84,9 проц.

Плян па харчовай прамысловасьці выканан на 108,9 проц.

### Агульныя вынікі па прамысловасьці

Пяцігадовы плян павялічэньня аб'ёму прамысловай продукцыі выканан на 93,7 проц.: прамысловая продукцыя вырасла ў параўнаньні з даваенным узроўнем да 334 проц., а ў параўнаньні з 1928 г. да 219 проц.

Па цяжкай прамысловасьці плян выканан на 108 проц.

Капітальныя ўкладаньні ў прамысловасьць склалі 23,3 млрд. руб., замест намечаных пяцігодкай 18,8 млрд. руб. Плян выканан на 124 проц.

Адносная вага прамысловай продукцыі вырасла з 48 проц. у 1927—28 г. да 70 проц. у 1932 г.

Продукцыйнасьць працы вырасла на 38 проц., што крыху адстае ад заданьняў пяцігодкі.

### Прамысловасьць у капіталістычных краінах

У той час, як аб'ём прамысловай продукцыі ў СССР вырас у канцы 1932 г. у параўнаньні з узроўнем 1928 г. да 219 проц., аб'ём прамысловай продукцыі ПАЗШ зьнізіўся за той-жа пэрыод да 56 проц. Англіі—да 80 проц., Германіі—да 55 проц., Польшчы—да 54 проц. Амярцьвеньне апарату цяжкай індустрыі складае ў Германіі 65 проц. і ў ПАЗШ—85 проц.

### Сельская гаспадарка ў СССР

За пэрыод пяцігодкі ў сельскую гаспадарку ўвайшло: а) больш 120000 трактароў; б) на 1600 млн. руб с.-г. машын. Організавана 2446 МТС. Мэханічная цяга ў сельскай гаспадарцы складае ў 1932 г. 13,7 проц. супроць 1,6 проц. у 1928 г.

Організавана 200 000 колгасаў, імі ахоплена 60 проц. сялянскіх гаспадарак і 75 проц. сялянскіх пасеўных плошчаў.

Організавана 5 000 саўгасаў.

Пасеўная плошча павялічана на 21 млн. *га*, плошча пад тэхнічнымі культурамі вырасла да 15 млн. *га* або на 75 проц. у параўнаньні з 1928 г.

Замест 700 млн. пудоў збожжа, зданага дзяржаве ў 1928 г., у 1931—1932 г. здана 1 400 млн. пуд., прычым колгасамі і саўгасамі здана 75 проц.

У саўгасных і колгасных жывёлагадоўчых фэрмах да канца 1932 г. было 7,6 млн. галоў буйнай рагатай жывёлы супроць 332 тыс. у 1928 г., сьвіней—3,6 млн. галоў супроць 75 тыс. у 1928 г., авечак і коз 9,9 млн. галоў супроць 970 тыс. у 1928 г.

### Сельская гаспадарка ў капіталістычных краінах

Кошт валавой продукцыі сельскай гаспадаркі ў ПАЗШ зьнізіўся з 11 млрд. доляраў у 1929 г. да 5 млрд. у 1932 г., г. зн. больш чым на 50 проц. Па збожжы кошт валавой продукцыі зьнізіўся з 1288 млн. доляраў у 1929 г. да 391 млн. доляраў у 1932 г., больш чым на 68 проц., па бавоўне зьніжэньне з 1389 млн. доляраў у 1929 г. да 397 млн. доляраў у 1932 г., больш чым на 70 проц.

Пасеўныя плошчы скарочаны па бавоўне ў ПАЗШ на 15 проц., па цукровых буракох у Германіі і Чэха-Славакіі на 22—30 проц., па ільне ў Літве і Латвіі—25—30 проц.

### Тавараабарот

Рост раздробнага дзяржаўнага і коопэрацыйнага тавараабароту да 39,9 млрд. р. у СССР, г. зн. павялічэньне да 175 проц. у параўнаньні з 1928 г.

Рост гандлёвай сеткі на 158 тыс. крам і магазынаў у адносінах да 1929 г. Павялічэньне продукцыі лёгкай прамысловасьці на 187 проц.

### Паляпшэньне становішча рабочай клясы ў СССР

1. Рост колькасьці рабочых і служачых у параўнаньні з 1928 г. удвая, плян у гэтай галіне перавыканан на 57 проц.

2. Павялічэньне народнага даходу на 85 проц. у параўнаньні з 1928 г.

3. Заработная плата вырасла ў сярэднім на 67 проц., перавысіўшы плян пяцігодкі на 18 проц.

4. Фонды соцстраху вырасьлі на 292 проц., плян перавыканан на 111 проц.

5. Грамадзкім харчаваньнем ахоплена 70 проц. рабочых.

6. Пераход на сямігадзінны рабочы дзень.

### Становішча рабочай клясы ў капіталістычных краінах

У ПАЗШ колькасьць беспрацоўных у 1932 г. складала 12 млн. чалавек. У Англіі—2,8 млн., у Германіі—5,5 млн. чалавек.

Заработная плата зьніжана ў параўнаньні з 1928 г. у ПАЗШ на 35 проц., у Англіі—на 15 проц., у Германіі—на 50 проц.

У ПАЗШ гадавы бюджэт фэрмэра за апошнія тры гады ўпаў з 844 доляраў да 187 доляраў у 1932 г.

## Расшырэньне культурнай базы ў СССР

Колькасьць вучняў у пачатковых школах вырасла з 10 млн. у 1928 г. да 19 млн. у 1932 г.

Колькасьць вучняў у агульнаадукацыйных сярэдніх школах паднялася з 1600000 у 1928 г. да 4350000 у 1932 г.

Колькасьць вучняў у тэхнікумах і на рабфаках паднялася з 264000 у 1928 г. да 1 437 000 чал. у 1932 г.

Колькасьць студэнтаў у ВНУ паднялася са 166000 чал. у 1928 г. да 500000 у 1932 г.

Колькасьць Навукова-дасьледчых інстытутаў вырасла з 224 у 1929 г. да 770 у 1932 г., а лік навуковых работнікаў павялічыўся ў два разы.

Пісьменнасьць насельніцтва паднялася да 90 проц.

## Упадак культуры ў капіталістычных краінах

У сельскагаспадарчых ВНУ Германіі ў 1923 г. вучылася 30 тыс. студэнтаў, а ў 1931 г.— 12 тыс.

З 8000 студэнтаў скончыўшых у 1932 г. ВНУ Германіі,—работу па спэцыяльнасьці атрымала толькі 1000 чалавек.

ЗЬМЕСТ

